**ББК 84 Бел7**
**К22**

В эту книгу поэтесса отобрала лучшие стихи со своих книг и многочисленных журнальных и газетных публикаций. Ее лирика сразу же тревожит душу читателя обостренным чувством справедливости, душевной чистоты, которая раскрывается во всепобеждающем чувстве любви, дружбы, человеческом единстве.
В последнее время Г. Корженевская пытается осмыслить как актуальные проблемы сегодняшнего бытия, так и вечные вопросы, которые рано или поздно встают перед человеком — о смысле существования, о быстротечности времени.

**4702120202-009**
**К ---------------------------- 139-91**
**М 302(03)-91**

**ISBN 5-340-00891-6**

## НА МОВЕ ШЧАСЦЯ РАЗМАЎЛЯЛА

***

О, каб змагла
спіхнуць з плячэй
Гару трывог, няўдач, памылак,
Што прыціскае і пячэ,
Што не дае расправіць крылы!
І выпраміцца, і ўзляцець,
Крануць крылом сінечу неба.
Ўсяго пазбыцца, што гняце,
Усё адкінуць, што не трэба.
Бяду і ганьбу ўсёй зямлі
Перапаліць натхненнем слова,
Каб сэрцы
макамі цвілі,
Каб стала восенню
вяснова.
1968

***

У царства пчол —
у сад прыйшла,
Ускрыкнула,
апечаная джалам.
А каля ног, ледзь бачная,
ляжала
Забітая
сваёй непрымірымасцю
пчала.
1968

### КРЫЛЫ

На іржышчы зайца
спужала,
Засмяялася: баязлівец!
Была б дзедам Мазаем —
Прыбег бы і лёг
на калені.

Павука ў павуціне
спужала,
Адхіснулася: злыдзень!
Тваім сваякам на Марсе
Грэшніц-дзяўчат
кідаюць.

Птушку ў гняздзе
спужала,
Пашкадавала: бедная!
Калі б чалавекам стала,
Ты б за спіной адчула
Магутныя крылы
Фантазіі.
1968

**ЖУРАВЫ**

Яшчэ стракозы водзяць карагоды,
Сп'янелыя ад водару сасны,
А журавы — шукальнікі вясны —
Збіраюцца памалу ў чароды.

Пакінуць лістапад і шэрань мне
І паляцець праз восеньекі прасцяг
Адтуль,
Дзе поплаў туманом прапах,
Адтуль,
Дзе скача дождж па жаўцізне.

Пачую сум іх, ціха пазаву...
Ды пагляджу са шкадаваннем, як
Узнімаецца зайздрослівы гусак —
І зноў праз хвілю
сядзе на траву.
1968

***

Ты вясну не страчай у горадзе
Там яна не бывае гордаю,

Дзе тапольі падстрыжаны статныя,
Дзе пралескі таварам сталі.
Ты вярніся на поле быліннае,
Што ўзарана
плугамі і ліўнямі.
Ты вярніся ў лес, праступджаны
І мяцеліцамі, і сцюжамі.
Выглядае травою леташняй,
Сарамлівай цвіце алешынай,
Не схавана няўмольным бытам
І прадбачана ў першых снах —
Там чакае цябе, незабытага,
Нестарэючая вясна.
1969

***

Прыйшоў (на шчасце ці на ліха?)
Вясны і сталасці пачатак.
У чырвоных боціках дзяўчаты
Глядзяць маўкліва, як буслiхі,
На дні мінулыя і стрэчы,
На талы снег,
на смех падлеткаў.
А сакавік, былога сведка,
Такі ж упарты па-хлапечы,
Такі ж падманліва-бясконцы.
На ўсіх сцяжынках і дарогах
Кідае ў лужыны, пад ногі,
Зарана выспеўшыя сонцы.
Па ўсёй зямлі рыхтуе змены.
Ваду са снегу выціскае,
Як волат з каменя,
рукамі
Вятроў паўдзённых і праменняў.
А ведае, дыхаючы воляй,
На момант роспачна і ціха
Стаяць дзяўчаты, як буслiхі,
Што гнёзд
не ладзілі ніколі.
1969

***

Мы не шануем
даўнішнюю веру.
...Як добра нам, бязбожнікам,
тады,
Калі старанна
стужкамі аеру
Пакоі ўпрыгожваюць дзяды!
Калі з-за тых партрэтаў,
што ў пашане.
З-за тых ікон,
што скардзяцца на лёс,
Выглядвае гарэзлівае ранне
Зялёнымі галінкамі бяроз.
Калі святлом спалоснутыя хаты
Гасцінна ўсміхаюцца гасцям...
Напэўна,
продкі выдумалі святы
Сабе на радасць,
толькі не багам!
1969

## БУЛЬБА ЦВІЦЕ

Бульба цвіце. Магчыма,
Яе ты заўважыў ледзьве.
Гэта ж не макаў чырвань,
Што ў зрэнкі
ўпарта
лезе.

Бульба цвіце — не ружы.
Згубіўшыся ў фарбах лета,
Усе захапленні тушыць
Прозаю бляклых кветак.

Сёлета бульба ўродзіць,
Ёй пахвала не трэба!
. . . . . . . . . . . . . . .
Сціпласць твая, народзе,
Ускормлена гэтай глебай...
1969

## ПРЫСВЯЧЭННЕ

*М.Ч.*

На мове шчасця размаўляла
Я з рэчкай той,
што нас гайдала,
І з небам тым,
што нас сляпіла
Мільганнем ластаўчыных крылаў.
На мове шчасця размаўляла
З ліле́яй той, што не схіляла
Галоўкі чыстай і вільготнай,
І лугам тым, што нам ахвотна
Прытулак даў.
...А справа, злева
Было гудзення столькі,
спеваў!
Пад разагрэтым млявым целам
Трава ледзь чутна шалясцела,
І свет змяняў у нейкі момант
Ружовы колер на зялёны,
Птушыны спеў на гул чмяліны,
Гарачы дотык на нявінны...
На мове шчасця размаўляла.
Каханай быць —
ці ж гэта мала?
1969

***

А дрэнны настрой,
Як павой,
Сцяблінку майго дня
Знарок абкруціў, абняў,
Каб нас пасварыць з табой.

А дрэнны настрой,
Як боль,
Бадзёрасць знутры тачыў,
Закрэсліў святло начы,
Каб нас пасварыць з табой.

А дрэнны настрой —
Як бой
Сябе
са сваёй нудой!
1969

## ПРАДЧУВАННЕ

Я ў прадчуванні навізны,
Такой пары, такой зары,
Калі кастрычнік дагарыць
У зыркім вогнішчы лясным.

Стаў асцярожным зранку
крок.
Я ў прадчуванні дня таго,
Калі здрыгнецца пад нагой
І хрусне жаласна лядок.

Калі за ноч табун вятроў
Паскорыць ярасны разбег
І восень выкажа сябе
Дарэшты
шэпатам лістоў.
1970

## ПАРТРЭТ

У яе валасы сівыя:
Сонца іх летам выбеліла,
Як палатно саматканае,
Калі працавала калісь
З жанкамі
на полі калгасным.
Плечы яе сутуленыя:
Сілу зямля забрала,
Калі яна ў час гаротны
Траншэі,
зямлянкі,
магілы

Капала з малодшым сынам.
Вочы яе бясколерныя:
Неба сінечу выпіла,
Калі яна ўвысь глядзела,
Дзе ўжо касманаўты лёталі...

Намаляваць хацела б
Позірк, хаду і голас,
Але чалавека ў рамку
Можна хіба змясціць?
1970

***

Я думала:
шчасце — знаходка.
Я думала:
шчасце — выпадак.
Я думала: шчасце знянацку
Сабе выбірае шчаслівчыка...
Ажно памылялася!
Шчасце
гадамі ва мне выспявала,
Зліва́лася з кропель усмешак,
Чысцела ў пакутах. Чысцее
Вось гэтак вада ў крыніцы,
Прайшоўшы зямлю наскрозь...
1971

## УЗНАГАРОДА

І першы крок,
і кволая ўсмешка,
І самастойна пройдзеная
сцежка,
І першых слоў
бясхітрасны вяночак,
І вачаняты,
што за маці сочаць,
І галасок,
што чуецца ўсюды,—

Усё
ўзнагарода
за пакуты.
1971

***

У салаўя работа —
Сезон спеваў.
З ноты
на ноту,
З дрэва
на дрэва,
З ноты
ў ранне...
(Ой, голас сарвецца!)
У салаўя прызванне
Кранаць сэрцы.
З лета
ў лета
Талент сталее.
У салаўя мэта —
Будзіць надзеі.
Покуль не меней
Сілы і страсці.
У салаўя натхненне,
У салаўя шчасце...
1971

## СЛОВА

Яго загадкавая сіла
Мяне з дзяцінства паланіла.
У сэрцы сеючы ўдзячнасць,
Яно было мне і тады

Выратаваннем ад нуды
І ад маркоты недзіцячай.
Я паўтарала слова ўголас,
Другі вышукваючы сэнс,

Яно, разгаданае спрэс,
Было безабаронна-голым.
Яно свяцілася складамі,
Яно па-новаму жыло!

А я ўглядалася ў святло,
Нібыта шчасце выглядала...
...О слова — кропелька ў моры
Маёй высакароднай мовы!
1971

## ПРЫВІТАННЕ

Як лён, як выспеўшае зерне,
Любілі слова мужыкі.
Звініць, бы хваля, Заазер'е,
Гучыць ласкава Верабкі.

Чарніца назвай ганарыцца.
(Яна паблізу ад шашы.)
...Не трэба, дружа мой, дзівіцца
Пяшчоце простае душы!

Забыць і ўдалечы не зможаш
Ні родны дол, ні матчын стол.
Жыве далёкае Замошша,
Як сотні вёсачак і сёл.

Іх назвы песцілі сяляне
З сівых пакутлівых часоў.
І назвы — госцю прывітанне,
Як хлеб і соль, як хлеб і соль...
1971

## ВЯЧЭРНЯЯ ФАНТАЗІЯ

Мароз мае колер —
зялёна-сіні —
І свой непаўторны пах.
У вёску прыйшоў

ад бяроз і асін ён
Па свежых заечых слядах.
Яго набліжэнне пачулі вароны
І комінаў джыны-дымы.
Мароз увіхаецца —
сіне-зялёны —
Каля маладзіцы-зімы,
Яе прыбірае
ў срэбра-іней
Пад спеў правадовых струн...
Празрысты,
іскрысты,
зялёна-сіні —
Ну чым ён не прыгажун?
А ёй падавай усё болей лёду,
А ёй замарозь маладзік...
Злуецца,
стараецца сіне-зялёны,
На вуліцу ў ноч
не ідзі!
1971

***

Я не адна,
не ў воблаках,— дзе там!
Прыйдзе суседка —
раскажа пра дзетак.
Стрэну сяброўку —
пачую таемны
Шэпт пра каханага,
варты паэмы.
Я не адна,
не ў воблаках,— дзе там!
Надта ж зямля
прыцягальная гэта,
Надта ж трывалая
повязь тая,
Што маё сэрца
з Айчынай злучае.
Я не адна,

не ў воблаках,— дзе там!
Столькі не здзейснена,
столькі не спета!
Толькі б натхнення рака
не засохла,
Што забруіла
пад небам высокім.
1971

## УСЕ МЫ НОВЫЯ ШТОДЗЕНЬ

***

Яшчэ прадбачана нямнога.
Я заклапочана і строга
Гляджу ў будучынь —
што там?
Непадуладнае гадам,
Юнацтва адмаўляе страх
Перад нязнаным,
перад лёсам.
Яно ў сэрцы і ў вачах,
Яно ўсміхаецца
скрозь слёзы.
Мяне на ўсё жыццё сагрэўшы,
Яно гукае і вядзе
Ў той наступны ясны дзень,
Што ад мяне адной
залежыць.
1971

***

*Жэні*

Вяла задума да ракі.
У першабытным захапленні
Стаю: кляновыя лісткі
На фоне месяца.
А цені
Затрапяталі, ажылі
Ды прабягаюць часам лёгка
І па лістах, і па зямлі.
Наскрозь прасвечаны аблокі.
Мяжа ракі і вышыні
Там непадзельна, дзе туману
Бялее покрыва... Ані
Ў хараstве няма падману!
Прырода стрымана маўчыць,
А дрэў навокал сілуэты,

Як сведкі гэтае начы,
Што непаўторна...
Спее лета.
Ліпнёвы хмель у галаве,
І прахалода студзіць скроні,
І ўвышыні каторы век
Паволі гойдаецца поўня.
1971

***

Не кажыце,
Што крыўды забудуцца,
Што няўдачы не варты ўвагі,
Што памылкі
Амаль неабходны,
Бо ўсе на памылках вучымся.
Не кажыце,
Нашто паспешнасць?
Гляньце:
У яблыку — колькі цяжару?
Але гнуцца галіны долу,
Можа нават зламацца каторая,
Калі яблыкаў надта многа...
1971

## МОЙ САД

Саромецца не варта
Наіўных тых гадоў.
Раслі радкі ўпарта,
Як дзічкі ля платоў.

Цяпер пара другая:
Працую, сад саджу.
Галінкі падстрыгаю,
Выпрошваю дажджу.

Ствалы бялю
бяссоннем,
Бо не хапае дзён.

Расці, мой сад,
высокім
І людзям будзь відзён!

...Мой сад —
пачатак долі,
Непаспытаны плод.
. . . . . . . . . . . . . .
Пакажа восень толькі,
Які я садавод.
1972

## СКРЫПКА

...А над вяселлем хмельным,
Над гоманам сталоў
Абшарпаная скрыпка
Ўзнялася. Паглядзі:
Узнялася так высока,
Што тым і не дастаць,
Хто не ўмее слухаць
Даверлівасць смыка.
Спявала, не зважаючы
На жарты і на смех,
Аб скончаным дзявоцтве,
Аб шчасці перамен.
І плакала нявеста.
Раптоўнаю слязой
Каханага сляпіла,
Як дзень назад — усмешкай.
А гукі ўсё ляцелі
Праз папяросны дым
Ды біліся ў шыбы
Са звонам, нібы птушкі.
Музыка нават вочы
Закрыў. Так бачыць лепш
І нараджэнне гука,
І маладосць сваю.
1972

## ДАЧКА ВУЧЫЦЦА ГАВАРЫЦЬ

Беларусачка!
Зноў і зноў
Мне відно нараджэнне слоў —
Старажытных, як соль і хлеб,
Дарагіх,
зразумелых лепш
У вымаўленні твайго ратка.
Як з крыніцы малой — рака,
Так, дачка мая,
з кроплі слова
Непрыкметна пачнецца мова...
Беларусачка!
Тулю да грудзей
Прадаўжэнне сваіх надзей.
1972

***

Мне ўяўляецца ростань
Полем пустым, неабсяжным,
А мы па краях процілеглых
З табой каласкі ўспамінаў
Старанна збіраем.
І страшна:
Іх робіцца меней і меней!
Іх, можа, надоўга не хопіць,
Калі не спаткаемся толькі
І поле ўдвух не засеем
Зярнятамі новага шчасця...
Як многа палёў
на планеце,
Якія засеву чакаюць!
1972

***

У лесе галюткім,
На кусце зымшэлым
Вясновае цуда
Квітнела.

Мы цудам не спешчаны.
Цуду мы рады:
У раўнадушшы
Ўбачым спагаду,
У слабасці — сілу,
У хітрасці — розум...
Я трошкі нарвала
Галінак дзівосных.
О, як ружавелі яны
Далікатна
У шклянцы з вадою,
Здзіўляючы хату!
Як пахлі адчайна,
Аж звялі суседкі —
Пралескі на сподачку.
Слаўныя кветкі!
Убачыла маці
і войкнула:
— Выкінь!
То ж воўчае лыка!
То ж воўчае лыка —
Атрута лясная!
А я і не знала...
1972

## РАНІШНІ ВЕРШ

Прамень абход свой пачынае
З пакоя,
д-зе дачка малая
Ружовай ручкай ловіць сны,
Дзе затаіўся змрок начны
І цацкі спяць.
Там пагуляўшы,
Прамень на стол пісьмовы ляжа.
Асветліць нітачку радка
З ранейшага чарнавіка,
Заўважыць кнігі на акне,
Прымусіць жмурыцца мяне...
У поўдзень ён цікаўнай пыскай

У кубкі лезе і ў міскі,
Глядзіць: бабуля дастае
Буханку,
рэжа на стале...
Заўсёды так.
Але з гадамі
Дачка расце.
Сталее мама.
Але бабуля не старая
Аб маладосці ўздыхае.
Усе мы новыя штодзень.
...Да новай раніцы, прамень!
1972

**ГАЛУБКА**

Знайшлі пры раскопках Пампеі
Галубкі шкілецік.
Яна
З гнязда не ўзляцела чамусьці.
На цёплыя крылы садзіўся
Гарачы
Везувія попел.
У змроку адчайныя крыкі
Ўспыхвалі
і прападалі.
Рабы-гладыятары беглі
На волю,
ад гібелі ў гібель.
Сенатаршы ў клунках цягнулі
Сервізы, пярсцёнкі... Навошта?
А попел, а попел, а попел
Усё падаў, і падаў, і падаў,
Ляцеў на жанчын і галубак,
Што дзетак закрылі сабою...
1972

***

Бескампраміснасці прыкметы
Ў душы яскравей і чысцей.
Падчас
з-пад выдуманых бедаў
Урачысты смутак прарасце:
Гляджу вачамі невідушчымі
Ў дні, нібыта ў вякі,
Калі абставіны вылушчвалі
Мяне з дзяцінае лускі,
Калі была адразу бачна
Паміж дабром і злом мяжа,
І толькі так, а не іначай
Магла судзіць і вырашаць.
Расла таполяй незалежнаю,
Пераканаская ўсур'ёз:
Што перадумана і сцверджана,
Што варта радасці ці слёз,
Што ў марах выпешчана — тое
Заўжды жывое
і святое.
1972

***

Бабулінай печы хвала
Адмысловай —
Цэнтральнай фігуры
Ў хаце вясковай!
Пагрэцца яна
Запрашала ахвотна
Зімой пасля снежак,
А летам — у слоту.
З паўзмрочных куткоў
І з трэшчын чарэні
Фантазій дзяцiных
Вылазілі цені.
Бабулінай печы хвала!
І сягоння
Прад ёю згінаецца нехта
Ў паклоне. Там шэпчуцца казкі.

Смяецца малеча.
— Падумаеш, печ!
— Я скакала... ад печы.
1972

***

Жнівень жніўню не раўня.
У залатую шыбу дня
Б'ецца вецер матылём.
За ўзгоркам спее гром.

Жнівень жніўню не раўня.
Спіць нябрыты старшыня,
І яму ўпарта сніцца
Колас выспелы. Пшаніца!

Жнівень жніўню не раўня.
Луг згалелы на каня
Ўзваліў апошні ўкос.
Хрумсткай хмарай едзе воз.

Горды чырванню сваёй,
Яблык вісне над зямлёй.
Набрыняла цішыня...
Жнівень жніўню не раўня!
1973

***

Адышлі драбяза і тлум.
Я празрыстай і ціхай стала.
Праз мяне пралятаць святлу,
Як праз лісце,
што не апала,
Як праз тонкі ўзор галін,
Як праз ніці травы нагрэтай...
Я і восень — адзін на адзін
У ляску,
дзе пакуль што лета.
1973

***

Я пачуцці хаваць
не прывучана.
Ты любоў мая, Случчына!
Да тваіх сенажацяў спелых
Я руплівай пчалой ляцела.
Даўжынёю ў гады —
дарога.
Прыпазнілася: стог ля стога.
Пазнаюць мяне ледзьве-ледзьве
Нават родныя. Нават суседзі.
Як марудна цяплеюць вочы:
— То Марусіна,
аграномчына.
Абступілі, гамоняць цёткі...
Усё ж пазналі.
Прызналі ўсё-ткі!
1973

***

Дарма пражытая хвіліна
Крычыць жалобна наўздагон,
Як пакараная бязвінна.
Дарма пражытая хвіліна
Хвалюе дзень, трывожыць сон.
Няўжо я вечна чуць павінна:
Дарма пражытая хвіліна
Крычыць жалобна наўздагон?
1973

***

Год на год нанізан шчыльна —
Нітка пацеркаў на шыі.

Ужо саромеюся мая:
У базе «шчасця» не шукаю.

З'ем пялёстак — дык у сэрцы
Горкі прысмак застаецца.

Не нуджуся, бо тады
Будзе болей гаркаты...
1973

***

Над каханнем маім адзіным,
Над чародкай звычайных песень
Песня мая лебядзіная
Лётае ў паднябессі.
Над сумненнямі
і над страхамі,
Над пасталелай мною
Лёгкім крылом узмахвае
Мая
лебядзіная
мроя.

Вышэй і далей — няспетая.
Сонейка ці завея —
Ёю мой твар
асветлены,
Покуль чакаць умею.
1973

***

Цыганскай долі не спытала.
Гадалкай хвілі не была,
Калі аднойчы разглядала
Далоні, поўныя цяпла.
Палоска тонкая вось тая —
Адзнака шчасця.
Ужо даўно
Яна намоцна нас злучае
І аб'ядноўвае ў адно.
А гэта — лініі пакуты
Бягуць, нібыта раўчукі,
І, выгінаючыся крута,
Сцякаюць некуды з рукі.
За імі — лінія ўдачы.
Яна, як зменлівасць сама,
Па загрубелай скуры скача:
То прамільгнецца, то няма.
Нарэшце рыска...
Дастаткова!

З яе — няроўнай, бы ралля,
І ўрачыста, і сурова
Ўзыходзіць
сонца мазаля.
1973

***

Дагарае вуголле ў печцы і ў зрэнках.
Кліча ноч да сябе.
Не пярэч ёй — дарэмна.
Павядзе, засыпаючы словы завеяй,
Каб ва ўладзе маўчання
адчуць мы маглі,
Як сляза ў лася закіпае пад вейкай,
Як зярняты ўздыхаюць
у соннай зямлі.
Будуць зоркі звінець
у аснежанай раме,
Заліванца гармонік,
пайшоўшы наўскач.
Будуць вокны сінець,
быццам тэлеэкраны.
Навагодняя ноч —
самы ўдзячны глядач.
1973

## ПАКАРАННЕ

Абыякава
сонца аднойчы ўстала.
Абыякава
жонка на стол падавала.
Абыякава
вецер разгойдваў лістоту.
Абыякава
біліся пеўні ля плоту.
Абыякава
рэчка свяціла сінечай.
Абыякавы дзень.
Абыякавы вечар.

Каму гэта кара? Каму?
Абыякаваму!
1974

## ПАМЯЦІ ДЗЯДУЛІ

Так асцярожна
Зямельку ты браў у жменю,
Бы птушаня,
Якое лятаць не ўмее.
Глядзеў на яе ўважліва —
Вось гэтак глядзіць вучоны
Ў кнігу,
Каштоўную мудрасцю,
Сціскаў камячкі вільготныя,
І долу цяклі скрозь пальцы
Нябачныя промні сонца...

Не ведаў ніхто, дзядуля,
Што ўвосень
Сырой зямелькай
Засыплюць твае далоні
Так асцярожна.
1974

## У БАТАНІЧНЫМ САДЗЕ

Сцяжыны ідылічныя алей.
Па сажалцы блакітна-шэрай
лебедзь
Разгульвае, ад берага далей,
І хвалі пакалыхваюцца ледзьве.

Павінен ваша вока
цешыць сад.
Дагледжаны і выпешчаны дрэўцы.
Аб крону не зачэпіцца пагляд,
Душа ад гушчару не страпянецца.

Пакошаны палянкі, як лугі.
Вам лебедзя
сучок не нагадае...
І толькі канцэнтрычныя кругі
Паказваюць, што сажалка жывая.
1974

## СВЯТА

Жыццё віруе і пяе.
Жыццё гудзе, як рупны вулей.
Касцюм і лепшую кашулю
Нарэшце шафа выдае.
Запахла святам на зямлі —
Абновай, мылам і духамі.
Вось муж нязграбнымі рукамі
Сукенку жонцы зашпіліў.
Яна з ахвотай маладой
Прычоску ладзіла,
а потым
Шукала зморшчынку ля рота...
Перамяніўся ўраз пакой!
Не стала раптам іншых спраў.
Дапамагаюць дзеці спрытна.
Як свежына,
шыпела брытва,
І прас спякотны астываў...
Ах, зборы, зборы!
Колькі раз
Яны кружылі нам галовы!
Сям'я да выхаду гатова.
Тэатр прыехаў у калгас.
1975

***

Напэўна, прага перамен
У кожнай з нас,
як зерне ў плодзе.
Дык вось чаму між звыклых сцен
Мы здавальнення не знаходзім!

Або спяшаем на вакзал,
Або касу абрэзаць рады,
Або наладжваем аўрал,
Каб чыснінёю ззяла хата.

Або камандуем мужам,
Куды калыску перанесці.
І рэпрадукцыя не там
Вісіць,
і шафа не на месцы.

Перамясцім сюды святло.
Крыху пасунем тэлевізар.
За паўгадзіны набыло
Тваё жыццё
другія рысы.

Але было б яно пустым,
Нібыта порхаўка старая,
Калі б не дбалі мы аб тым,
Аб чым планета сёння дбае...
1975

## ЖЫЦЦЯ ЯШЧЭ НЯДОЎГАГА ПАДЗЕІ

***

Невыпадкова, невыпадкова
Некалі першае кволае слова
Пырхнула з пёрца,
з палону чарніла,
Сэрца балючым адразу зрабіла,
Пільнымі — вочы.
З гэтай хвіліны
Ззянне расінкі, палёт галубіны,
Коласа важкасць,
аддаленасць зоркі
Бачыць я стала абноўленым зрокам.
І зразумела я, як недарэчна
Неўладкаваны наш дом
чалавечы,
Колькі надзей, не з'явіўшыся, гіне!
Ды ў гэтым доме —
і я гаспадыня...
1975

***

Якія розумы гібелі!
Якія таленты ляглі
Ў негаблёваныя труны,
У абдымкі матухны-зямлі!

Прыроду знатнасць не цікавіць.
І божай міласцю паэт
Араў дзірван, касіў атаву
Ды з лебяды варыў абед.

А божай міласцю музыка
Хіба на лёс не наракаў?
Іграў вяселлі.
У карчомцы
Губляў слязу на спеў смыка.

Адзін з падатлівае гліны
Глякі і міскі вырабляў.
Другі, у колеры ўлюбёны,
Ні разу пэндзаль не трымаў.

Няўжо дарэмна прападалі?
Знікалі кроплямі расы?
У нас прачнуліся, я веру,
І мары іх,
і галасы.
1975

**ПРЫМАЎКА**

Кажуць часам: «На вяку
Сем раз палкай па баку».

Хто калі зрабіў падлік?
Бедны бок балець прывык.

Страты б'юць па ім, згрызоты
Сёмы раз і семісоты...

Ды чамусьці мне здаецца,
Што баліць не бок, а сэрца!
1975

**КЛЯТВА**

*Вандзе Цімошак*

Дажджлівым вечарам калісьці,
Пад пагражальным гулам грому,
Дзяўчынкі ў вернасці кляліся
На ўсё, на ўсё жыццё, вядома.

Кляліся шчыра, па-дзіцячы —
Бягом, у пырсках па калені,
Бягом, шчаслівыя да плачу,
У тое дзіўнае імгненне.

Бягом, дадому — пад маланкай,
За рукі ўзяўшыся ў парыве!
...І клятва наша не малая
За намі неслася на крылах.

І хто з нас,
хто з нас вінаваты,
Што адрасоў не адшукалі,
Што нестарэючае — Ванда —
Імя тваё з гадамі далей...

Даўно мы шолах крыл не чулі.
Мы перад птушкай той даўжніцы.
Мо словы ў громе патанулі
Ці змыты летняй навальніцай.
1975

***

Я прылегла на дол лясны
І далонь пад шчаку паклала.
Натаміўшыся, засынала
І харошыя сніла сны:
Развітанне. Салодкі плач.
Луг расквечаны. Промні. Хвалі.
Прабуджэння майго чакалі
Сто пытанняў і сто задач.
Сто праяў дабраты і зла,
Сто знаходак
і сто памылак.
Я раку і сцяжынку сніла.
І сцяжынка мяне вяла.
1975

***

Праз глухі камарыны звон
Я спяшаю
па кветку-сон.
Вось пад ялінаю бачу
Першы сон —
бэсклапотна-дзіцячы.

Быць сарваным не хоча
Другі — сарамліва-дзявочы.
На санцапёку прыгрэўся
Сон ужо пабялелы —
трэці.
І адзін за адным пайшлі
Сінім подыхам майскай зямлі...
Мне іх хопіць
на многа зім,
Калі сніць па адным.
1975

***

Жыцця непрадугледжаныя змены,
Зусім не палічыўшыся са мной,
Мяне забралі з вёскі,
дзе марэнны
Ўзгорачак здавён завуць «гарой».

З гары ў ноч калісьці пазіралі
Жанчыны, скамянеўшы ад жуды,
А навакол тры вёскі палыхалі —
Тры вогнішчы, тры смерці, тры бяды.

На той гары змярканні залатыя.
На той гары падаць рукой да зор.
Там у нядзелю рвуць вясной малыя
Пралескі для мінчанак — для сясцёр.

Там мары нашы стрэліся
і разам
Пайшлі ў свет, у неабсяжны свет...
Стаіць гара — хай не раўня Каўказу —
Высокая, як матчын запавет.
1975

***

Завеі-гады,
Снегапады-месяцы...
Колькі ўжо імі
Жыцця замецена!

Дзе стрэчы былі,
Дзе шчасце было,—
Белая роўнядзь,
Скупое святло.

Дзе аб пацалунках
Мроілі губы —
Грузна і холадна
Высяцца гурбы.

Дзе слёзы і смех
Расцвіталі ў цішы —
Лёд, галалёдзіца
Ды ледзяшы.

...Замітульгала раптоўна
Ўваччу.
У гурбах высокіх
Сцежку тапчу.
1975

***

Ёсць вёсачкі,
Дзе моладзі няма,
Дзе колькі хат
Даўно пазабівана.
Такія адзінокія,
Яны
Глядзяць на свет
З падслепаватай крыўдай.
Вось сталі непатрэбнымі
Нікому.
А ганак помніць
Крок гаспадароў,
Дагэтуль пахне хлеўчык
Сырадоем,
І на двары,
Што палыном зарос,
Яшчэ сляды малечы
Не сатлелі...

Хай старасць папракае нас.
А мы,
Мы ці заўсёды
Разумеем старасць?
1975

***

У хвіліну тугі, як вядзецца,
Дакараю ўласнае сэрца:
— Ты калючае, ты балючае,
К памяркоўнасці не прывучанае.
Ты бяздумнае, тлумнае, смешнае,
Аніколечкі не бязгрэшнае.
Ты і радаснае, ты і горнае,
Лёсу строгаму непакорнае.
Мне б цябе памяняць, здаецца,
На такое, што роўна б'ецца.
Ну, а што, калі з тым —
беззаганным —
Я зусім не сабою стану?
1975

## УСПАМІН АБ ГАРОДНІ

Па часам адшліфаванаму бруку
Блукалі непрыкаяна і гулка.
Уніз глядзелі з Замкавай гары
На горад і стары, і не стары
Ды краталі халодныя муры...

Мы сувязі не бачылі, дый годзе,
Гадзіны той
з дзесяткамі стагоддзяў,
Якія ў нас стаялі за спіной —
Абражаныя тым, што мы з табой
Сварыліся, дурэлі, жартавалі,
А іх тады
зусім не заўважалі.
1975

***

Дазвольце
слабай стаць жанчынай
Здзівіць раптоўнаю слязой,
І засмяяцца без прычыны,
І так зірнуць,
што сам не свой
Каханы пойдзе.
Нечакана
Палагаднець і на плячы,
Такім надзейным і жаданым,
Паспавядацца ўначы.
Мінулых звычак адцурацца,
Набыўшы новых, можа, сто.
Сябе аддаць
шчаслівай працы
Па-над бязлітасным лістом.

Жыццю вучыцца штохвілінна,
Жадаць дзіцячага цяпла...
Дазвольце
слабай стаць жанчынай
Каб слабасць я перамагла!
1975

## ХАЦЕЛА ВЫМЕРАЦЬ ЛЮБОЎ

Хацела вымераць любоў
Я колькасцю
пяшчотных слоў.
Засведчыць можа толькі ціш
Маю памылку,—
ты маўчыш.
Хацела вымераць яшчэ
Яе
бяссонніцай вачэй.
Ды ты прызнаўся мне, о жах,
Што спіш цудоўна па начах.

Усё прымала я ў разлік:
Як жартаваць са мной прывык
І як вітаў, калі прыйду.
Прыкмет патрэбных не знайду.
А вочы любыя твае
Крычалі ўчора
пра яе!
1975

***

Зязюлька манюка,
Салавей праўдзівы.
*З народнай песні*

Што каханы сто разоў
Пацалуе,
Накувала, напляла —
Не дарую.
Што любіцьме сто гадоў
Мяне мілы —
Неяк ранкам залатым
Наманіла.
І мана яе
Пакінутым птахам
І ўва мне з надзеяй б'ецца
І страхам...
Уцяку я ад манюкі Зязюлі
Ў садок, дзе нас вятры толькі
Чулі,
У садок, дзе мы разлуку
Не снілі.
У садок, дзе салаўі
Не хлусілі...
1975

## БЕЗ ЦЯБЕ

Я жыву без цябе. Адна
Рву парэчкі. Стаю ля акна.
Прачынаюся... З травамі ў лузе
Размаўляю...

Я нават смяюся!
Я любіць пачынаю ўсур'ёз
Не пакуту, а рогат да слёз!
Усё шукаю (з далёкім табою),
Дзе мяжа чалавечага болю.
Воч тваіх берагу сіняву.
Я жыву без цябе.
Я жыву?.. І
1975

***

Жыццё, мяне не беражы
І надалей ад неспакою.
Не пакідай
на той мяжы,
Што між гарачаю любоўю
І між нянавісцю ляжыць.
На ёй самота і нуда,
Падзей бясколерныя здані,
Хвілін марудная хада,
Заместа ўсходаў — адцвітанне,
Заместа кветак — лебяда.
Тым не зайздрошчу,
што на ёй
Будуе хатку дабрабыту.
За тонкай седзячы сцяной,
Яны шчаслівыя нібыта...

Жыццё, ці чуеш заклік мой?
1975

***

Удвух ваявалі —
бацька і сын.
Удвух ваявалі.
Вярнуўся адзін.
...Песня мая, памажы, навучы:
Бацьку ці сына
ў табе зберагчы?
Вопыт ці дзёрзкасць?

Запал ці развагу?
Сталую моц
ці юначую смагу?..
Дарэмна пытаюся —
вырашыў лёс.
Бацькавы вочы святлеюць
ад слёз.
Схілім галовы
ды памаўчым:
Удвух ваявалі —
і слава двaім.
1975

***

Калі чалавек
глядзіць на дзіця,
Якое сваволіць,
Смяецца,
Калупае ў носіку,
Плача,
У сандаліках мерае лужу,
Спявае на мове дзівоснай,
Працягвае ручкі да маці,—
Калі чалавек
глядзіць на дзіця
І вочы яго не цяплеюць,
Ка мне падазрэнне прыходзіць;
А раптам ён робат
Ці, можа,
Прышэлец з далёкай планеты?
1975

***

На зямлі незвычайна ціха,
Калі крычыць парадзіха.

Нараджацца, пэўна, нялёгка
Ні жывёле, ні зорцы далёкай,
Ні сцяблiне, якая знутры
Ў зярняці расце да пары.

Як напружана з цемры тла
Птушанятка мкне да святла!

Як пакутліва і паволі
Нараджаецца сіла волі,
Наш характар і сталасць наша —
Хай пра гэта гады раскажуць.

Не без мук нараджаецца слова —
Тое слова, што ў бой гатова!
1976

## ЗДЗІЎЛЕННЕ

Здзіўленне само,
спакваля прачнецца.
Няма чалавечней закону:
Менш году
носіш дзіця пад сэрцам,
А ў сэрцы носіш
да скону.
1976

## ЧОРНАЯ ХУСЦІНКА

У юнацтве чорная хусцінка
Была да твару. І тады,
Яе насіўшы,
не чакала
І не ўяўляла я бяды.

Я зразумець была не ў стане,
З якой прычыны на мяне
Жанчыны стрэчныя глядзелі
Даўжэй
і крышачку пільней.

Але гады перакавалі
Маю наіўную душу.
Дзеля красы

ўжо ніколі
Хусцінкі той не завяжу.
1976

***

Па моцнаму марозу, адвячоркам,
Праз лес, закуржавелы і маўклівы,
Наведалася маці да мяне.
Сказала, распрануўшыся:
«Паслухай,
Пра што, йдучы, я думала.
Дык вось:
Сярод усіх істот
Найбольш безабароннейй
І бяскрыўдней — дрэвы.
Не маюць ні зубоў, ні кіпцюроў,
Ні ног, каб ад пажару ўцячы,
Ад буры, ад навостранай сякеры.
Растуць, шумяць —
то радасна, то смутна...»
А мне здавалася, што быў расказ яе
Цудоўнейшай
З усіх паэм на свеце.
1976

## АЕР

Аксаміты (а лепей Аксаміты)
Завецца вёска, дзе жыла гады.
За ёй, кустамі пышнымі прыкрыты,
Бег ручаёк — няведама куды.

К яму ішла стракатая чародка:
Хто большы, хто плаксівы і малы.
Мы рвалі там тугія і салодкія
Аеру маладзенькія сцяблы.

Быў пах яго халаднавата дзіўны,
Быў пах такі...
Здаецца і цяпер:

Няма на свеце, мусібыць, расліны,
Якая пахне лепей за аер.

Чаму яго я ўспомніла ў кватэры —
Дзе мэблі бляск, спакой і цішыня?
Зубную пасту з водарам аеру
Купіла ў магазіне,
і штодня
Прыходзіць думка
(Цэлае напасце!
А раптам ёй прыходзіць не пара?),
Што, як дачка,
па гэтай толькі пасце
І будзе знаць рачнога жыхара?
1976

***

Мне лепей не хадзіць
На кірмашы,
Дзе прадаюць лазовыя кашы,
Дзе ад кляновых лыжак звон
Далей за гутарку чуцён,
Дзе бочачкі, кадобчыкі, цабры —
Лясныя даўгавечныя дары —
Бялеюць сакавіта, як сыры.
Іду, разглядваю. Здалёк
Страчае поглядам дзядок.
Мяне той погляд не міне,
Пытае быццам: «Купіш? Не?»
Гаворыць мне нібыта ён:
«Вось рук маіх старэчых плён».
Я з вінаватымі вачыма,
З усмешкай
Крочу міма, міма,
Бо дома ў століку ляжыць
Кляновых лыжак, можа, з пяць...
І зразумець не ў стане сэрца:
Адкуль віна мая бярэцца?
1976

## ПРАГА ДАСКАНАЛАСЦІ

Дасканаласць — ты птушка
свойская
Мо для некага.
На ляту
Пёрка скінула ты над вёскаю.
За табою я ўслед іду,
Я бягу з ненатольнай прагаю:
— Апусціся, ляці сюды!
Да цябе я рукі працягваю,
Як да бога — мае дзяды.
Вецер яркае пёрка гушкае,
Пакалыхвае над галавой...
Дасканаласць, няўлоўная птушка,
Мне б за хвост
ухапіцца твой!
1976

***

Гісторыя — не могільнік глухі,
Дзе подзвігі людскія і грахі
З нябожчыкамі разам закапаны.
Гісторыя балючая, бы рана.
Яна ўвайшла ў нашу плоць і кроў
І плоццю і крывёю продкаў нашых.
Адно спытайся — многа што раскажа,
Адно не грэбуй лепшымі з дароў —
Усім, што нам пакінула пяро,
Ганчарны круг, сякера і цясла,
Легенда невялічкага сяла.
Гудуць, гудуць удзень і ўначы
Званы гадоў.
Над вамі. Нада мною.
Калі глядзіш звысока на былое,
Сябе хаця сучасным не лічы!
Гісторыя — не могільнік глухі.
1976

## МАСКОЎСКАЕ МЕТРО

Я падарожнічала мала.
Маё сялянскае нутро
Ад захаплення абмірала,
Калі я трапіла ў метро.

Усім магла я захапляцца:
Якая хуткасць! Рух які!
А на сцяну адной са станцый
Ляглі дубовыя ліcткі.

Само паветра вее святам,
Вачам баліць ад белізны.
Непараўнальны эскалатар
Плыве паволі — ў сны.

І на прыступку ўступіўшы,
У шэраг, шчыльны, як трава,
Я адчуваю: стала бліжай
Масква!
1976

## МАЛЮНКІ НА ПЛЯЖЫ

Ад мора далей, каб не змыла,
Ляжаць кіты і кракадзілы.

Русалкі выгінаюць станы —
Дзе вылеплены, дзе намаляваны.

Уверх каты і чарапахі
Глядзяць без роспачы і страху.

Па іх, як па дзіцячых душах,
Адзін ступае важным мужам,

І дзе была мастацтва завязь —
Сляды, падобныя на зайздрасць.

Другі прыпыніцца, а потым
Абыдзе смешную істоту.

Няхай ляжыць. Няхай глядзіць.
Ёй суджана так мала жыць.
1976

***

Душа павінна вызваляцца
Хоць раз у месяц, раз у год
Ад мітусні
штодзённай працы,
Ад надакучлівых клапот
Пра дом, пра посуд, пра калготкі,
Мыццё бялізны, хлеб, абед…
Душа на нейкі міг кароткі
Падобнай стане на Сусвет —
Дзе неабдымная прастора,
Дзе супакоены хаос,
Дзе свецяць урачыста зоркі
І не баяцца вочы слёз.
1976

***

Жыцця яшчэ нядоўгага падзеі
Ў вочы мне дапытліва
глядзелі
Ў тую ноч,
калі ты побач спаў.
Ты не ўцёк ад клопатаў і спраў
І ў нетры сну,
бо часам набягалі
На вусны словы, як на бераг хвалі.

Жыцця яшчэ нядоўгага падзеі
То роспач выклікалі, то надзею
На тое, што пражытага ўрокі
Душу загартаванай і высокай
Зрабіць павінны…
Месяца святло

Гаіла боль, пранізваючы шкло...
...Не ведала,
як добра пры бяссонні
Паціснуць незваротнаму далоні.
1976

***

Дзе подбегам,
каб не спазніцца,
Дзе спынішся, бо пераход...
Спяшаешся. Песняй сініцы
Вызваньвае ранішні лёд.

Натоўп у турботах па вушы,
Занятасць
на кожным ілбе.
Прахожы глядзіць невідушча —
На стрэчных,
а можа, ў сябе.

Адна сярод мноства,
адна ты.
Ты — кропля ў вадзе веснавой.
І промень чыйгосьці пагляду
Спяшаецца ўслед за табой.
1976

**ГАЛАЛЁД**

На двары галалёд,
Галалёдзіца.
Нашы сцежкі ўсё далей
Расходзяцца.

Наша шчасце слізгаецца,
Падае.
«Галалёд»,—
Папярэджвае радыё.

Пад нагамі ў нас
Лёд раскоўзаны...
Сталі слухаць не сэрца,
А розум мы.

Пад руку браць другіх
Нам даводзіцца...
Галалёд, галалёд,
Галалёдзіца.
1976

***

Не закаханай ні ў каго
Глядзець не варта на каханне.
...Вакзал аўтобусны. Уранні
Яна праводзіла Яго.

У гамане, як у цішы,
Стрымаць слязу не мела сілы,
Шаптала штосьці —
можа, «мілы»,
А можа, «мілы мой, пішы»...

Я помню прагу іх вачэй
І пацалунак развітальны...
Падглядзела чужую тайну,
Але ад тайны не лягчэй.

Не закаханая зусім,
Я і дасюль
зайздрошчу ім.
1977

## НАБЫВАЮ ЦІ ТРАЧУ?

Калі чалавеку чужому
Раптоўна, у парыве гарачым,
Адкрыю душу без развагі —
Я набываю ці трачу?

Калі чалавека чужога
Давер'ем сваім перайначу,
Калі не шкадую пяшчоты —
Я набываю ці трачу?

Калі, чалавека згубіўшы,
Слязамі маўклівымі плачу,
Сябе выпрабоўваю болем —
Я набываю ці трачу?
1977

***

Расспяваліся пеўні
Пасярэдзіне ночы.
У халодных праменнях
Сны юнацкія крочаць.

Сны яшчэ раз, яшчэ раз
Углядаюцца ўвыш,
Удыхаюцца ў верас,
Чуйна слухаюць ціш.

Ім гарэзіць не сорам:
Ловяць зорны агонь,
Толькі падаюць зоры
Скрозь далонь,
скрозь далонь...

І такая лагода
Навакол і ўва мне!
Усміхаюцца годы
Незваротнай вясне.

Так хадзілі б, напэўна,
Давідна мае сны,
Каб не гэтыя пеўні —
Хварсуны-крыкуны!
1977

***

У мастака
Вялікая рука
І цяжкая нібыта ў хлебароба.
Яна мне, прызнаюся, даспадобы
Ў час работы —
у плямах ад бяліл,
У каляровых змешаных разводах
(На кончыках качыных гожых крыл
Якраз такія вывела прырода).

У мастака
Свавольная рука,
Што ў бацькоў адзіная дачка.
Перабірае фарбы па адной,
Святлом незадаволена, сабой,
Палітраю, дзе фарбаў не стае,
Каб выканаць фантазіі яе...

І як жа можна, мушу я гадаць,
Не даць ёй волі,
а ўладу даць?
1977

***

Нарэшце дзеці ёлку прыручылі.
Яна ўжо не колецца, як вожык,
Дае сябе пагладзіць.
Не сярдуе,
Калі яе абвешваюць старанна
Бразготкамі — бліскучымі, бы іней.
І з вожыка,
прыбраная з любоўю,
Яна ператвараецца ў цыганку.
Здаецца, калі б даў ёй бубен,—
Пайшла б у скокі.
Пацеркі звінелі б,
І тупала б нага на табурэце...
1978

***

Я гэтак гляджу
На мурожныя травы,
На гулкія сосны,
На промень рухавы!
Я гэтак гляджу
На палі і лясы,
На ўсмешкі хлапцоў,
На дзяўчат валасы!
Я гэтак гляджу
(Замірае душа)
На ластаўкі лёт
І на спрыт мураша.
Я гэтак гляджу
На грыбы і калоссі,
Як быццам хвіліну
Мне жыць засталося.
1978

***

Удалечыні парнаская гара.
На шлях свой
азірацца не пара.
Жаданне спеліцца ў мяне такое:
Каб вырасла хоць каліва дабра
З жыцця майго.
Хоць каліва малое!
1978

## АБЦЯЖАРАНА СЭРЦА ПЯШЧОТАЙ

***

З дасужаю цікаўнасцю турысткі
Я крочыла па вуліцах Варшавы.
Заходзіла ў музеі.
У касцёлах
Высока задзірала галаву:
Якая веліч! Колькі пазалоты!
Але душа спяваць не захацела.

Па летняй Празе, спёкай і дажджом,
Спяшалася я за экскурсаводам,
Бы нітка за іголкай.
У крамлі
Я дыхала паветрам прыгажосці.
Якая веліч! Колькі пазалоты!
Мая душа
няветліва маўчала.

Нарэшце дома!
Ззаду тлум дарогі.
У блізкі бор спяшаюся і там
Удыхаю пах іголак і жывіцы,
Малітвенна падняўшы галаву...
О хараство!.. Капрызная душа
Прачнулася —
і раптам заспявала!
1975

***

Асенні дух
асенняга змяркання
Ажно да сэрца некалі дастане.
Паспакайнею і палагаднею,
Насення спрэчкі болей не пасею
На полі зжатым.
Буду з-пад рукі
Глядзець у незваротныя вякі:
На шлях —

не лёгкі і не просты,
На каханне і на ростань,
На час, што ў памяці пяе,
На плечы юныя свае…

А покуль —
хай разыдзецца, растане
Асенні дух
асенняга змяркання.
1977

## ДЫМЫ НАД ГАРАДКОМ

Акраса ранняў,
дзеці рускіх печаў,
Дымы над гарадком сабраліся на веча.

Пухната-белыя,
яны над кожным домам
Застылі задуменна, нерухома.

Галіны ў інеі.
На ўсходзе чырванее.
Малеча сонна падымае веі.

Палаюць дровы,
і блінцы пякуцца,
Рыпіць пад крокамі
здранцвенне белых вуліц.

А я са школы, з трэцяга паверха,
Гляджу ўніз (вачам якая ўцеха!)

На сонца маладое, на дымы,
На вулку, дзе жылі калісьці мы,

На дрэў і дахаў снежныя абновы,
На гарадок,
здзіўляюча вясковы.
1977

## ВЯСНОВЫЯ АДБІТКІ

Контуры лесу размыты,
Стаў ён лягчэй і радзей.
Увесь — як уласны адбітак
У сакавіцкай вадзе.

Між растрывожаных хваляў
У рэчцы, што цяжка сапе,
Воблакі лёд даганялі,
Ну, а дагналі... сябе.

Сонца і ў лужыне гразкай,
І ў быстрыні ручая —
Першая весняя краска
Не адцвітаючая.

Погляд убачу зялёны,
Вуснаў засмяглых віну,
Твар, прадчуваннем замглёны,—
Як у азерца зірну.
1977

## ПАНЕНСКАЯ ГАРА

Паненскую гару
На ўскраіне Лагойска
Нашчадкі разаруць,
І будзе вецер гойсаць...

Але яна пакуль
Стаіць малайцавата,
Хоць чула посвіст куль
Ды звон мячэй аб латы.

Угляджуся з-пад рукі —
У пятнаццатым стагоддзі
Лагожскія дзяўкі
На верх гары ўзыходзяць.

У панёвах да зямлі,
У кашулях вышываных
Прыгожымі былі
Няроўнячы, як панны,

...Якія песні там
Хаваліся ў верасе,
Складаліся і пеліся
Яшчэ далёкім — нам?

Якія з іх даўно
Забыты беззваротна?
Якія пад віно
Дасюль пяём ахвотна?

Сабраліся? Пара!
Сяброўка маладосці,
Паненская гара
Сягоння кліча ў госці.
1977

***

У магазіне, дзе таўпяцца
Да закрыцця,
дзе модніц рацЬ,
Нямая, указваючы пальцам,
Прасіла штосьці паказаць.

А прадаўшчыца раздражнёна
Ёй падавала зноў і зноў
Кулон, значок, фігурку з лёну,
Затым драўлянае пано.

Пры гэтым лаялася злосна,
Аж пабялеўшы: гэта? не?
Нахабства ўскручаныя восы
Кусалі моцна
і мяне.

Мне б заступіцца за жанчыну,
Ласкавы бог мне даў язык!
А я пальчатку камячыла.
Я прамаўчала. Голас знік.

Дасюль
над той хвілінай чорнай
І над сабою суд вяршу.
Мычыць пакутліва мой сорам
Ды пальцам торкае
ў душу.
1977

## ЖЫЛА-БЫЛА

Жыла-была.
Гуляла ў лапту,
Для парасятак рвала лебяду.

Жыла-была, нікольkі не тужыла,
Намочвала каленцы ў расе,
Уволю на духмянай канюшыне
Любіла пакачацца, як і ўсе.
Рукамі залатыя парушынкі
Лавіла ў прамяністай паласе.

Дражняць парушынкі, мітусяцца,
Круцяцца, няўлоўныя, ля пальцаў…

Жыла-была.
Блукала ў кукурузе.
Драбніц усіх прыпомніць не бяруся
Былое ўцякае ад мяне,
Як тыя парушынкі ў гумне.
1978

***

*Максіму Танку*

Растуць, мне гаварылі,
Камяні.
Я верыла: растуць,
Інакш адкуль ім брацца гэткім —
Велізарным, дужым?

Вясёлкі п'юць
З азёр і рэк ваду,
Казалі мне.
Я верыла таксама.
Інакш не йшлі б дажджы,
І рэкі б не мялелі,
І сажалка глыбокаю была б.

Уцэліўшы ў арэшнік, бліскавіца
Арэхі паліць:
Спеленькі сарвеш, раскусіш —
Пуста, чорна ў шкарлупіне,
Я верыла,
Што так яно і ёсць.

...Ніводзін камень
З той пары не вырас,
Вясёлкі высмаглі
І пагнілі арэхі.
А ўсё таму,
Што верыць перастала!
1978

## ПРОСЬБА

Падлічваць гады чужыя
Вялікая ты майстрыха.
Зязюля мая, скажы мне:
Ці доўга мне жыць, ці крыху?

Яшчэ палічы, варажбітка,—
То просьба, а не прынука —
Колькі ў мяне за жытку
Будзе дзяцей і ўнукаў?

Колькі напасцяў зімніх
Сплыве з веснавой вадой?
Колькі маіх слязінак
Яшчэ ўпадзе на дол?

Спраўдзіцца доўг адплатаю —
Добранька заплачу!
Грудку тваю паласатую
Слоўцам пазалачу.
1978

***

Запалкай карабельнае сасны
Зямля ўжо заранку запаліла.
Стаміўся дзень.
І з асалодай крылы
Распростваюць у дуплах кажаны.

Па-іншаму гамоняць уначы
І людзі, і расліны між сабою.
Пануюць цені, уладараць мроі,
Устаюць з курганаў
продкі-крывічы.

Начны, счарнелы свет —
як антысвет,
Як небыццё, як згадка
год дзіцячых.
Углядаюся ў неба:
нешта ж значыць
Святло скупое зорак
і планет!

Птушыных сноў не ведаю зусім,
І цемры шолах мной не разгаданы.
Снуецца і раскідваецца тайна,
Пакуль мы спім.
Мы гэтак моцна спім...
1978

**ПРА КОЛЕРЫ**

Колеру гарачых вугалёў
Наша страсць была
І наша кроў.

Адпалаў агонь,
адкарагодзіў...

Бедны мой,
Па мне журыцца годзе.

Колькі ні шкадуй,
ні варушы —
Прысак ружаваты
Ў душы.

Ну, а целы,
супакоеныя целы
Гэта попел белы,
Схаладзелы.
1978

***

З якой жадобай я піла паветра
У тыя месяцы,—
мядовае пітво!
З якой жадобай зрокам убірала
Палеткаў
і нябёсаў хараство.

Быў свет тады
спагадлівым і шчодрым.

У ружаў пахаваліся шыпы,
Уцякалі ўсе каменьчыкі з дарогі.
З ухвалай буркаталі галубы.

Мяне старанна абміналі пчолы,
Грымоты напаўголаса раўлі.
Ступала ганарліва і паважна
Я — цяжкая —
па лёгенькай зямлі.
1978

## ЧАКАЮЧЫ ЦЯБЕ

Я выткала б нямала дываноў,
Чакаючы цябе —
І вечарамі,
І ноччу беспрасветнаю,
І днём.
Чакаючы —
З работы
і са сходаў,
З сяброўскіх зборышчаў,
Вандровак,
паляванняў...
(Як многа ў мужчыны
Ёсць падстаў,
Каб прычасціцца доляй Адысея!)
Я выткала б нямала дываноў —
Стракатых, як расцвіўшыя лугі,
А тку
Самоты шэрую тканіну...
1978

***

Прачынаецца лес давідна.
Ён з нябачным свяцілам гамоніць
І ўвесь набліжаецца ўмомант
Да расчыненай форткі акна.
Прачынаецца лес давідна.

Не будзілі б вы, птушкі, мяне,
Многа-многа гадзін перад гэтым
Я ляжала ў ціне нагрэтай —
У бяссоння на саменькім дне.
Не будзілі б вы, птушкі, мяне.

Мы лятаем па розных шляхах.
Накарміўшы малечу, прыбраўшы
Нетрывалыя гнездзечкі нашы,
Адагнаўшы клапотамі страх...
Мы лятаем па розных шляхах.
1978

## Я ГЛЯДЖУ НА СЯБЕ

Я гляджу на сябе, на сябе —
Якой я калісьці была.
Чупрынка свіціцца на лбе,
На твары — усясілле святла.

Я гляджу на былую сябе
(Сто мяцеліц той час замяло!),
Паражэнняў і ростаняў збег
Азмрочыў і твар, і чало.

Шкадаванне мне сэрца дзяўбе:
Дзе даверлівасць,
след яснаты?
...Я гляджу на сябе, на сябе.
На сябе глянь, мой дружа,
і ты...
1978

## НАЧНЫЯ МАТЫЛІ

Начныя матылі
Ў цемры мільгацелі,
Спачыць мо не хацелі,
А мо і не маглі.

Начныя матылі
Ў час падзення зорак,
Не ведаючы гора,
Жылі, як каралі.

Гулялі апантана,
Увасаблялі шчасце,
Якога і не ўкрасці
І не пазычыць нават.

Начныя матылі
Мяне не заўважалі.
Я з цяжкай ношай жалю
Ступала па зямлі.

У час згарання знічак
Пыталася душа:
Адкуль узяўся жаль?
Каго мой жаль датычыў?
1978

***

Лясы —
нібы людскія душы.
Згадзіся, дружа.

Адзін —
нібыта насланнё,
Прыдумка духу злога.
На сук напорацца анёл,
Сам чорт паломіць ногі.
У заплеснявелым гушчары
Прамень марнее, гіне.
Тут камары —
гаспадары,
Паганкі — гаспадыні.

Другі ж —
свіціцца, што абраз.
Празрысты, чысты, звонкі,

Здзіўляе нас і цешыць нас
Ён кожнаю сасонкай.

Увесь — імкненне ўгару,
Увесь — прастор і неруш,
Не паддаецца ён пяру.
Яму адразу верыш.

І зноўку паўтарыць я мушу:
Лясы —
нібы людскія душы.
1978

***

Я назірала, як расце трава.
Я нараджэнне хмаркі назірала.
Мурашнікі кіпелі, як вакзалы
Перад вялікім святам.
Галава
Кружылася ад стомы і палёгкі.
Скрозь пальцы ціха
краскі прараслі...
І неба да таго было высокім,
Што сіратліва стала на зямлі.
1979

***

«Вясной у мурашак сонныя вочы».
*З сачынення пяцікласніка*

Ён у вочы глядзеў мурашам,
А мы не глядзелі.
(Мы занадта прывыклі спяшаць,
Мы хвіліны не мелі.)

На яго не зважаў аніхто,
З ім і дзеці гулялі не часта,
Быў падціснуты строга раток
І чубок завіваўся адчайна.

Адмаўляўся чытаць ён услых,
Не адужаў кантрольнай ніводнай,
Знерваваных настаўніц усіх
Раздражняючы неверагодна.

На ўроках, за партай адзін,
Ён сядзеў безуважна, маўкліва —
Чалавецтва малюсенькі сын,
Кучаравае беднае дзіва.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Між вялікіх і дробных падзей
У душу зазірнуць нам аднойчы
Не заўважаных намі дзяцей
Па-вясноваму сонныя вочы.
1979

## АЖЫНЫ

Ад пацалункаў, як ажыны,
Пасталі вусны ў дзяўчыны.

Матуля сварыцца, злуе:
— На губы, дзеўка, глянь свае!

Дачка чапае губку пальцам
Перад люстэркам
і гадае:

Ці ёй заплакаць у адчаі,
Ці ёй ад шчасця засмяяцца?
1979

## БАГІНЯ ФЛОРА

Багіня Флора без настрою
Была,
калі тварыла.
Яна маліну з крапівою
Суседкамі зрабіла.

Дала дзядоўніку —
і ружам
Калючак злосных сотні.
Падаравала дубу дужасць —
І кораню асоту.

На сціплы лён
глядзім звысоку,
На хмель ліслівы — знізу...
Паўсюль, паўсюль,
як кінуць вокам,
Жаночыя капрызы.
1979

***

Прысніўся мне сад у саспелых пладах.
Свяцілася груша, як лямпачка-сотка,
Паблісквала яблыка бокам салодкім,
Круглілася сліва, напятая сокам...
Ды сад быў чужым —
вось якая бяда!

Няпрошанай госцяй хадзіла па ім,
Між дрэў абцяжараных марна блукала
Ніводнага яблычка я не сарвала,
Ніводнае слівы патайна не ўкрала
Ў садзе даступным,
але не маім.

Паддацца спакусе мне штось не дало.
...А раніцай, сон адганяючы ўладна,
Сабе я цвярдзіла: ніякага сада
Зусім не было, не было, не было...
1979

***

Над бяздоннай прорвай небыцця
(Чорна як і холадна ўнізе!)
Хто не зведаў страху за дзіця,
Хто з нас за дзіця не калаціўся!

Ад вятроў, што на планеце дзьмуць,
І ад навальніц, што спеюць сёння,
Паспрабуй іскрынку захінуць,
Паспрабуй схаваць яе ў далонях...
1979

***

Ад заспанага сонца
Да месяца
Не стамляюся
Дзіцяткам цешыцца.

Сто пяшчотных імён
У Насці...
Мне завошта
Такое шчасце?

Мо за тое,
Што моцна кахала?
Што работы
Баяцца не стала?

Мо за тое,
Што ў цуда верыла,
Над крыніцай засохлай
Стоячы?

Я прыгоршчамі
Шчасце мераю —
Там, дзе капка была
Надоечы.
1979

## ПАРАДА МАЛЮСЕНЬКІМ НОЖКАМ

Упарцяцца малюсенькія ножкі,
Не хочуць станавіцца на падлогу.

Вучыцеся ступаць,
Мае нажуткі,

Вам гэтак многа прыйдзецца хадзіць
За мамай, нерашуча,
І без мамы,
У тэпціках, а потым на абцасах,
На сумныя урокі, на спатканні...
(О, на спатканні будзеце вы бегчы!)

Вам танцаваць нямала давядзецца:
На стоптанай траве,
І на паркетах,
І на вяселлі ўласным,
А яшчэ
На ўсіх вяселлях будучых дзяцей.

Не менш вам, ножкі,
Прыйдзецца стаяць:
Пад урачысты гімн
І ў цішыні,
У чэргах магазінных і вакзальных
І ля труны маёй абавязкова.

Вучыцеся ступаць,
Мае нажуткі!
1979

***

Чытаючы пра вогненныя вёскі,
Я плакала.
І ў вучняў пацяклі
Міжвольныя слязінкі-адгалоскі —
Чысцейшыя слязінкі на зямлі.

І кожны з іх у скрусе немалечай
Здаваўся мне,
тады сляпой ад слёз,
Тым дзіцем, што курынае яечка —
Каб толькі не забілі! —
кату нёс...
1979

***

Сон парваўся, як нітка,
Сярод ночы не сплю.
Снегападу намітка
Абкруціла зямлю.

Усе рахункі старыя
Снег засыпаць гатоў
Не на зімні перыяд,
А на векі вякоў.

Ды ўсё роўна: пад слоем
Нежывой белізны
Будзе дыхаць былое
І прасіцца ў сны.
1979

***

Не навучуся прызвычайвацца
К штодзённым стратам.
Мне шкода дня,
Які канчаецца,—
Ён быў мне братам.

Ён клапаціўся пра набытак
Маёй душы.
Ён працавіта
І адкрыта,
Ён чэсна жыў.

І вось пайшоў ссінелым садам,
Куды —
не знаю.
Свой дзень
Праводзячы паглядам,
Адно ўздыхаю...
1979

## МЛЕЧНЫМ ШЛЯХАМ

Млечным Шляхам
Сплываюць светы
З невядомага ў невядомае.
Млечным Шляхам
Ляцяць каметы —
Легкадумныя
І бяздомныя.

Млечным Шляхам
Спяшаюць мары
На нябесныя бальшакі.
Млечным Шляхам
Ідуць паэты.
...О, які ж гэта шлях цяжкі!
1979

## Уладзіміру Караткевічу

Ён выпорвае слоўца
з імхоў забыцця
(Не заўважыць другі
і нагой наступіўшы!).
Ім, крамяным,
любуецца, круціць пяшчотна,
А пасля ачышчае ад жухлай іглiцы,
Ад прыліплых пясчынак,
малых парушынак
І ў ёмісты кош свой кладзе.
У тым кашы
З-пад Бягомеля слоўцы,
з-пад Воршы і Пінска...
Аднаго зразумець не магу:
Як жа ён
Наадшукваў іх гэтулькі,
гледзячы ў неба!
1979

## СТРАШНАЯ КАЗКА

Трэцякласнік,
вучань В.А. Сухамлінскага,
склаў казку
аб Краіне Бесклапотных.

У бесклапотных
будняў не бывае,
У бесклапотных
памяць спачывае.

Успомніць жыхары
не маюць часу,
Адкуль яны пайшлі
і хто яны,
Бацькоў імёны,
матчыны наказы,
Мінуўшчыну
іх роднай стараны.

Забылі, хто ім узараў палеткі,
Хто пасадзіў бярозы ля ракі —
Забылі ўсё!
І нас пужае гэта.
Мы не адтуль!
Мы ім не сваякі!

А ты — што мову родную адкінуў,
Як старызну,—
ты не з тае краіны?
1979

## МАСТАЧКАЮ БЫЛА Б...

Мастачкаю была б — намалявала б
Жанчыну маладую.
На каленях
Ляжыць дзіця — ружовенькі галыш.
(Яго б я запазычыла знарок
З палотнаў Рафаэля,
А жанчыну

З суседкі змалявала б
Ці з сябе.)
Адзення колер цёмны.
У руцэ
З-пад малака бутэлечка бялее.
У позірку — пытанне.
За спіной
Ракет увыш нацэленыя дзюбы.
«Мадоннаю XX стагоддзя»
Назвала б я карціну.
Ну, а вы?
1979

**ПТУШКІ ПІРАСМАНІ**

З тых лясоў,
дзе сумавалі лані,
З тых палёў,
дзе спее вінаград,
Прылятаюць птушкі Пірасмані,
Крыламі ўзмахваючы над
Розніцай часоў і вымярэнняў,
Над усепланетнай цішынёй...
Птушкі, не адкідваючы ценяў,
Увышыні застылі нада мной.
Белыя —
што снег Каўказа белы,
Чорныя —
як думкі бедняка.
І няўжо ў духане закапцелым
Іх тварыла гордая рука?
Чысціню і яснасць у духане
Хіба надоўга можна зберагчы?
...Адпачывае птушка Пірасмані
Ў прыгажуні на тугім плячы.
1979

***

На возе з бітонамі —
мажная целам,
Тварам ружовая —
баба сядзела.

Каня падганяць не хацела яна,
Хораша ж надта, кругом ярына.
Кінула погляд далёка, высока:
Спёка і сінь, зеляніна і спёка.

І воз серабрысты паўзе неахвотна,
Нібы самалёт
на пачатку палёта.
1979

***

Замёрлі спужаныя хвілі —
Ну і ўсхадзіўся летні гром!
Мяне грымоты разбудзілі,
Мяне маланкі асляпілі,
Яшчэ палоненую сном.

І так маланкі зіхацелі,
Мой паласуючы пакой,
Нібыта асвяціць хацелі
Ўсе забытыя падзеі,
Усё жыццё маё
сабой.
1979

***

У чалавеку
Людское мне дорага.
Я жадаю
Мецць чэснага ворага.
Каб не нёс падарункі
Ў мой дом,
Каб у сэрца не шыўся
Вужом,
Не глядзеў каб

У вочы мне,
Быццам сябар найлепшы, а не
Люты вораг.
Хай — тварам у твар!
Хай маланкі
Між гнеўных хмар!
Хай грымоты
Пужаюць неба
(Пры варожасці
Так і трэба!).
І —
Ачысціцца небакрай.
Вораг ворагам
Будзе хай!
1979

***

Прадажнасць, як іржа
На вастрыі нажа,—
На душах чалавечых.
А душа,
Калі яна з іржою,
То быць перастае
Душою.

Купляюць
Незнаёмых і знаёмых
За малако
(Птушынае, вядома).
Купляюць
За падкову для блыхі,
За кнігу,
За паслугу без чаргі.

Купляюць непадкупных
(Глупства — грошы!),
Мяне не купяць,
Слава табе, божа!
Для прайдзісветаў
Вершы не прынада.

Не хочаце аўтографа
Па блату?
1979

***

Абрала маё сэрца не таго,
Каго любіць магло б
без наракання,
Без горычы,
без марнага жадання
Другога лёсу і любві другой.

Няма цяжэй за гэту, мусіць, нош!
Аднак нясу свой крыж я без пакоры
І цешуся надзеяй: скора, скора
Я вызвалюся.
Вызвалюся ўсё ж!
1979

## НА ДНЕ БЫЛОГА ВОЗЕРА

Не ў мроі ліхаманкавай, не ў сне,
Не ў фантастычным фільме Галівуда —
Я белым днём
іду па чорным дне.
Па ўсохлым дне, якога не забуду.

Тут трэшчыны ў палец таўшчынёй,
Тут водарасцей вечная магіла,
Малькоў і рыб.
Якое насланнё
Вясною дамбу слабаю зра'біла
І дужаю — ваду?
Сляпая сіла
Сама сябе імгненна загубіла.

Іду па дне — са смагай у душы.
Вакол бялеюць ракавінак сподкі,
Канаючаю рыбінай ляжыць
На беразе пакінутая лодка.
Карчам, пяску насуперак

мяне
Вяртае памяць да празрыстых нетраў.
Я белым днём
іду па чорным дне,
І страшна без вады,
як без паветра.
1979

## СОСНЫ

Якія мецць патрэбна карані,
Каб выстаяць у гэтакі буран!
Паветраны ўсхадзіўся акіян,
Хістаюцца вяршыні ўвышыні —
Ды соснаў не адужаць.
Сотні год
Яны ўчэпіста трымаюцца за глебу.
(Іначай нельга тым,
хто любіць неба.)
О сосны, сосны!
Вы — як мой народ.
1979

## ПТУШКА З БЛАКІТНЫМ КРЫЛОМ

Што за птушка з блакітным крылом
Праляцела сягоння паўз дом?

Праляцела — і як не было.
Па душы паласнула крыло.

Мільганула раптоўная згадка:
Мнагавата, замнога парадку
Ў жыцці маім, строгім і посным.

Ахмістрыняю сноўдае Проза —
Зазірае ў куты і паперы,
Замыкае прадбачліва дзверы.

Мне ж пайсці да сяброўак ахвота,

Ды — работа, работа, работа!

Адзінакія твары і словы,
Адзінакія сны і размовы...

Толькі птушка з блакітным крылом
Праляцела сягоння паўз дом.
1980

## РАЗВІТАННЕ З ТУВОЙ

Самалёт узнімаўся імкліва і лёгка.
Толькі воблакі воўнаю побач плылі,
Толькі чорныя плямкі
ад белых аблокаў
Як радзімкі, сядзелі на целе зямлі.

Прападала з вачэй, раставала істужка
Енісея...
Аселі Саянаў хрыбты...
Самалёт маю мару,
як дзіцятка, гушкаў
Я вярнуся,
вярнуся,
вярнуся сюды!
1980

## СТАРЫЯ ЗДЫМКІ

Старыя здымкі драць —
Судзіць і дакараць
Уласную каштоўную персону.

Увага, забароненая зона!

Сюды не падступіцца мне самой.
Тут час, які застаўся за спіной.

У добрым ладзе тут

і ў добрай згодзе
Дзесяткі «я» маіх стаяць і ходзяць.

Адна — само давер'е і дабро.
Другая выбірае словы злыя.
Дзе цвёрдая — Адамава рабро,
Дзе слабая...
І ўсе яны — былыя.

З сабою разам тых я падзяру,
Каму дарэмна сэрца давярала,
Каго, не разглядзеўшы, угару,
У зорныя вышыні ўзнімала...

Абрыўкам не ўваскрэснуць,
не злучыцца.
Падраць — лягчэй.
Цяжэй — не паўтарыцца.
1980

***

Безвыходнасцю свет замглёны:
Як жыць мне цяпер?
Як жыць?
Лёгка, лёгка быць улюбёнай,
Ды цяжка — любіць.

Жартаваць, абнадзейваць лёгка,
Сарамлівы пагляд хаваць.
І знарок запавольваць крокі,
Каб спазніцца хвілін на пяць.

Смешна бегчы!
Не будзе позна.
Раздзімаючы той пажар,
Усё-ткі ступіш нагою босай
На вуголле, на самы жар.

І нямашака горшай мукі

(Сведкам сэрца маё таму),
Чым гадаць, сашчапіўшы рукі:
— Не ідзе — чаму?
1980

***

Суніцамі пахнуць
твае пацалункі,—
Падумала я, а сказаць не сказала.
Пэўна, пяшчота мне мову скавала.
Суніцамі пахнуць
твае пацалункі!

Колькі разоў
выкрасала з душы я
Гневу грымотныя бліскавіцы.
Чыстае неба.
Вясёлка.
Суніцы.
Птушка любові пер'ейка мые.
1980

***

Бэз адцвіце — адпяе салавей,
Тэрмін на ўсё вызначае прырода.
Трэба дзяцей гадаваць.
За дзяцей
Самае лепшае песні не шкода.

Жухлыя кветкі забудуць зусім,
Як ружавелі, як пахлі заўзята.
Птушка занята гняздзечкам сваім.
Будучым
мудрая птушка занята.
1980

***

Было на кветцы па пчале,
А сёння луг касіць пачалі...
Адно дзіцятка ў сяле,
Астатнія павырасталі.

Яму чужы, як родны, рад,
Цукеркай кожны пачастуе.
На ўвесь, на ўвесь дзіцячы сад
Адно дзіця — і сад пустуе.

Яго гадуюць талакой
(Свае ў горадзе ўнукі).
Няма бабулі, да якой
Дзіця не просіцца на рукі.

Зліняе лугу палатно
За дзень ці два...
Тужліва сэрцу
Адно дзіцятка, і яно
Ў сяле наўрад ці застанецца.
1980

***

Я разбіраю сказ па членах сказа
З непаслухмяным,
ленаватым класам.
Наводшыбе, ля кутняга акна,
Сядзіць, як Зеўс, інспектарша з рана.
Я паднімаю першага, другога —
Не ведаюць!
Не кемяць анічога!
І сэрца,
як заўсёды ў страшных снах,
Сціскае страх,
неверагодны страх.
Сама я ўжо адрознію не адразу
Ад дзейніка (загінула!) выказнік.
Разгубленасць,
хаос,
бязладдзе,

змрок...
Не скончыцца ніколі той урок.
За што, скажыце,
сны караюць нас?
Адно засну —
і разбіраю сказ.
1980

## МАРШ «РАЗВІТАННЕ СЛАВЯНКІ»

«Развітанне славянкі»
развучвалі трубы,
Гучна заводзілі, шчыра стараліся.
Два галасы — пяшчотны і грубы —
Зліцца хацелі, але не зліваліся.

У голасе першай чуліся слёзы.
Другая няўмела яе супакойвала.
Ткалі мелодыю нітачкі розныя:
Адна суравая,
другая шаўковая.

Бачу: праводзячы сына ў салдаты,
Маці хусцінку да вуснаў прытульвае.
Трубы гавораць, крыху вінавата,
З сынам адна,
а другая — з матуляю.
1980

***

Абцяжарана гронка рабіны
Снегам бязважкім.
Гэты снег, як мае ўспаміны —
Ён і лёгкі, і цяжкі.

Гэты снег, як маё каханне,
Як шчасце наша:
Праз месяц, бадай, растане
І зноўку ляжа.
Адкладзі мітусню на потым,

Вунь бель якая!
Абяцажарана сэрца пяшчотай —
Бы гронка тая.
1981

***

Ты вёў мяне па лесе да азерца.
Ты гаварыў:
— Яно вунь там, зірні!
Рукой, падаць, а там вада і неруш.
І я ішла стамлёнымі нагамі.

Спяшаўся ты.

Ты ледзьве паспяваў
Прытрымліваць калючыя галіны,
І кропелькі раздушаных суніц
На доле за табою крывянелі.

Спяшаўся ты.

— Вунь там яно, вунь там!..

...Жаўцеў пясок.

Іржавыя начоўкі
Стаялі пасярэдзіне таго,
Што некалі было лясным азерцам.
А мы з табою позіркі хавалі.
1981

***

Былі пярэбары і ў нас —
Гармідар, спешка,
тлум ад рання.
Перад сабою, як абраз,
Я несла пышны куст герані.

Здалася лесвіца крутой

І цяжкай, бы наканаванне.
На будучы прытулак свой
Глядзеў пужліва куст герані.

Было застолле, і сябры
Нам згоды стоячы жадалі.
На незнаёмым мне двары
Мае надзеі прарасталі.

І абжываліся куты.
Да рэчаў прывыкалі сцены,
А мы з табой — да цеснаты,
Што завяршыла зрух сямейны.

Калі з нябеснай вышыні
Нас промень кволы не дастане,
Хай асвятляе нашы дні
Куст герані.
1981

***

То цягніка аддаленыя зыкі,
То грукат самалёта
зноў чуцён.
Напамінае свет мне:
— Я вялікі!
Імчыцца свет,
гудзе на рэйках дзён.

Яшчэ, бывала, сонца не прачнецца —
Засноўдалі машыны па шашы.
Прыводам мітусні завёўшы сэрца,
Напамінае свет:
— Я без мяжы!

Ты без мяжы!
Нязведаны і значны,
Адвучаны даўно ад цішыні.
Цябе спасцігнуць — цяжкая задача.
О свеце дарагі, перадыхні!..
1981

***

Па дарозе лясной,
Дзе гуляе вятрыска,
Ён ішоў да другой,
Ну, а мне не адкрыўся.

Ён усмешкі дарыў,
Заляцаўся паглядам.
І звінелі ўгары
Заінелыя шаты.

Мне хапала цяпла
І ад іскры малое,
Ды паспець не магла
За ягонай хадою.

І гамонка, і смех,
І над вуснамі пара,
І вясёлкавы снег,
І ажыўшая мара...

Ад прывету яго
Нават сэрца адтала.
Ён ішоў да другой.
І другая чакала.
1981

**У ДОЖДЖ**

Быў дождж, і шэрае радно
Па-над жыццём маім вісела.
Душа і зморанае цела
Нарэшце сталі заадно.

Душа лунала, як у сне,
Нячутна крыламі махала,
А я па горадзе блукала.
Вы, пэўна, бачылі мяне.

У пырсках восеньскай вады

Ішла я мройліва і сонна,
І мной адсутнасць парасона
Не заўважалася тады.

Ішла, брыла...
Складаўся верш,
Ператвараўся дзень у вечар.
Мільгалі постаці сустрэчных.
Пытаўся дождж:
— Куды ідзеш?
Куды вядзе бязладны шлях?

— Мой шлях нікому не вядомы.
Вось і відны абрысы дома.
Па малако зайду ў прадмаг.
1981

## ІГОЛКАЙ ПРОМНЯ

Іголкай промня сшыць хацела
Акраец чорны
з мрояй белай.
З гаркоццем —
слодыч,
Гром з зацішшам
(Сцяблінку ветрык не калыша).
З узлётам — роспач і
падзенне,
З апошнім — першае
імгненне...

Я да крыві скалола пальцы.
Ці варта, скажаце, старацца?

Усё, што тут пералічыла,
Само жыццё намоцна сшыла.
1982

## ДЫК ШТО ТАКОЕ, УРЭШЦЕ, ЧАС?..

***

Пад ранак шуганула навальніца,
І сны мае пабеглі хто куды.
Зямля піла
і не магла напіцца,
Засмяглая за месяц сухаты,
А дрэвы ўсе і шыбіны дрыжалі,
Бы ў ліхаманцы...
Гэтак рыкаў гром,
Як быццам у завоблачнай дзяржаве
Адзінаўладным быў гаспадаром.
Калі ж не так —
Адно я знаю добра:
Сярод асколкаў ладу і цішы
Ён быў на выклік немасці падобны.
Ён быў гаспадаром
маёй душы.
1981

***

...І зноўку выпаў снег,
І ў вочы закалола.
З усмешкай папракну:
— Ах, зімка! Ах, назола!

Навошта гэты снег
Нагам у басаножках
Ды кволенькім яшчэ
Маладзіковым рожкам?

Навошта гэты снег
Пупышкам жаўтаротым,
Палям, і жаўрукам,
І пасяўным клапотам?

Чаму належыць быць,
Таго не перайначыць.
Навошта ж гэты снег?
Ах, зімка... Ах, дзівачка...
1981

***

Ну, вось і ты, асенняя пара.
Прыйшла і не спытала,
ці жадаю
Твайго прыходу.

Так на шумны баль
Упэўнена прыходзіць прыгажуня,
І гоман заціхае.
Толькі шэпт, зайздрослівы, жаночы
(Шэпт лістоты?),
Прашалясціць прыкметай захаплення.
А прыгажуня далей, далей...
Ды чамусь,
Як ступіць крок —
То ўміг і пастарэе,
І нават незвычайныя ўборы
Шарэюць, выцвітаюць — што ні крок.
Ужо няма ні шэптаў, ні паглядаў,
І што былі — не верыцца.
Яна ж
Ступае з ганарлівасцю былою,
У люстэрка баючыся зазірнуць.

Баль скончыўся. Выходзяць пад руку
Сагнутая бабуля з дзеўчанём,
Цнатлівым і даверлівым.
(Зіма?)
1981

***

Стаў цяжэй і паважней крок,
Памякчэў палагоднеў нораў.
Ды запоўз у душу халадок
Жыватворнай парой медазбору.

Можа, зведала многа здрад,
Можа, праца мяне станіла...
А было (сто гадоў назад!) —
Я цябе называла мілым.

А было — ад жаданых губ
Не магла аніяк адарвацца
І ў твой залацісты чуб
Спакваля ўплятала пальцы.

Сталі годы мае ў радок —
Палічыла іх скора.
Дык адкуль жа, адкуль халадок
Вераснёўскі
парой медазбору?
1981

## НЕ ІДЗЕ МІЛЕНЬКІ МОЙ

Я, молада, ўсю ночаньку не спала,
Міленькага з дарожанькі чакала.
Мой міленькі прыехаў так позна,
Параскідаў падушачкі розна.
*З народнай песні*

Не ідзе міленькі мой,
Не ідзе.
Што рабіць мне ў гэтакай
Злыбядзе?
Скіну з плеч чакання
Груз цяжкі,
А яшчэ — пярсцёнак
З правае рукі.
На бяседу да суседа
Я пайду адна,
Вып'ю без прымусу
П'янага віна.
Выйду ў круг —
Пяю, весялюся,
Абгавору бабскага
Не баюся!
Тупну я, прытупну
Раз-другі…
Хай мяне чакае
Дарагі!
1981

***

Як спатыкнуцца аб пагляд,
Як апячыся...
Няўжо?
З якіх таемных спрат,
З якое высі
Дарунак?
(Што рабіць мне з ім?
Дарунак рэдкі!)
У вочы лезе даўнішняга дым,
А дым той едкі.
І я праз нечаканую смугу,
Пад грукат сэрца
Гляджу, усё гляджу —
І не магу
Я наглядзецца...
1982

**РАКА ЛЮБОВІ**

Няласку кінуў у адказ —
Не забалела.
Відаць, рака маёй любові
Абмялела,
І там, дзе грозныя віры
Калісь кіпелі,
Залеглі плёсы спакваля,
Узніклі мелі...
Няхай.
Я навіне не запярэчу.
Гайдае плынь то хмару,
То сінечу.
Вада, што нас дзівіла
Глыбінёю,
Спрыяла нам, жывіла нас
Сабою.
Няхай. Што я магу?
З-пад гладзі соннай
Вось-вось заб'е раўчук
Незамутнёны!
1982

***

Глядзела ў акно і пасёлкі лічыла.
Чытала.
(Як гучна суседзі смяюцца.)
«Падманутым сэрцам любіць
немагчыма» —
Пагляд спатыкнуўся
і мусіў вярнуцца.

Катул, ты кахаў ты пакутваў нямала,
Ты ісціны высек іскрынку
з пакуты.
Ты зведаў пачуцці такога напалу —
Расплавіцца камень,
рассыплюцца путы.

Ты — сын старажытнага, даўняга
Рыма —
І сёння радком развярэджваеш душы.
«Падманутым сэрцам любіць
немагчыма».
А хіба магчыма любіць
падмануўшым?

Купэ бестурботна гамоніць, смяецца,
За белай фіранкаю час пралятае.
Падманутым сэрцам,
падманутым сэрцам
Люблю
і твой вопыт, Катул, абвяргаю!
1982

***

Мы спрачаліся, мы сварыліся,
Нашы праўды
за нешта біліся.

Ад сімпатый, жывых учора,
Пух і пер'е ляцелі ўгору,
І, разгромленыя дашчэнту,
Слаба войкалі аргументы.

Ад пяшчоты былой — ні знаку.
Самалюбствы пайшлі ў атаку,
А за імі амбіцый роты...
Назаўсёды бывай, пяшчота!

Стала пуста на полі бою.
Толькі мы,
толькі мы з табою...
1982

## НЕЗАВЕРШАНАСЦЬ

Незавершанасць справы і песні,
Пачынання, задумы, радка.
Незавершанасць чарнавіка,
Што з абрыўкаў
ужо не ўваскрэсне.

Хмарай чорнаю свет нам засціць
І высмоктвае кроў з надзей
Незавершанасць нашага шчасця.
(На паўкроку замерла — дзе?)

Ды яго не падгоніш, знаю.
Тут бяссільны, бадай, чараўнік.
Незавершанасць — як тупік.
І чамусь не павешана знака.
1982

***

Раблюся гараджанкаю патрошкі
(Ці мне да тузаніны прывыкаць?).
Жаданыя тралейбусныя рожкі
Выглядваю —
а рожак не відаць.

Убіўшыся са спрытам у цясноцце,
Змяняю «Я» на тоеснае «МЫ».
Мы думаем аб дзецях, аб рабоце
Аб неласкавым нораве зімы.

Мы думаем аб купленай сукенцы
І аб хакейным матчы.
У акне
Сусед нарэшце выдзьмухаў акенца —
Прыехала.
Мяне аддайце мне!
1982

***

Алена і Настасся, дзве дачкі,
Я нарадзіла вас,
каб развітацца.
Хай не пустымі будуць каласкі,
Узрошчаныя ласкаю і працай.

Тым каласкам даспельвацца здаля.
(Уночы сэрца зашчыміць, заные.)
Я буду назіраць, як спакваля
Змяняцьме час абліччы дарагія.

Старэючы сама, я вас аддам
Рабоце і каханню, а таксама
Расчараванню, роспачы, слязам —
Ад іх, на жаль,
не ўберажэ вас мама.

У перапляценні цемры і святла
Жывіце. Усміхайцеся. Любіце.
Я вас аддам,
як і мяне калісьці
Мая матуля свету аддала.
1982

***

Спасцігаю жыццё мураша:
Ні хвіліны няма, каб спыніцца.
Заклапочаная душа
Не лятаць прывыкае —
таміцца.

Не спяваць, а збіраць дацямна,
Што найменне і кошту не мае.
Невыносны цяжар бервяна
(Ці саломіны?) шыю ўгінае.

І не бачна, кірую куды,
І не знаю, каго перагнала.
І прадбачанне нейкай бяды
На шматкі мае ночы падрала.

Кінуць, рынуць бы справы ўсе.
Убачок і звярнула б, можа,
Але хто на гарбе панясе
Мне адной дараваную ношу?
1982

## ГОД ЛІСІЧАК

Незаўважна мінуў, прайшоў
Год паганак і гарчакоў.

Ні прыгод табе, ні згрызот.
Год лісічак —
нармальны год.

Хоць не зрэзаў добрыка нож,
А іду не з пустымі ўсё ж.

Мае кошык усё ж вагу...
Суцяшаюся як магу.

Расчараванасць крывіць рот:
Год лісічак,
няўдалы год!
1982

***

Узрост выцясняецца ўзростам,
Складаная ісціна — простай.
Імкненні —

выгодай куртатай,
Рашучасць —
пытаннем: «Ці варта?»

Усё, што не супрацiўляецца,
Адмоўем сваім выцясняецца.
1982

***

Як цяжка ўсходзіш ты, насенне
Маёй душы!
Калі ты ўпала на каменне —
Яго скрышы.
Калі патрапіла ў хвалі —
Не патанай.
Калі снягі цябе схавалі —
Вясну чакай.
Калі ж засохла ты ці, можа,
Груган скляваў —
Нашто жыву?
Нашто, о божа,
Іскра твая?
1982

***

Калі маладзее зямля
(А яна маладзее вясною),
Туга авалодвае мною
Спачатку,
а радасць — пасля.

Туга па хвіліне малой,
Па кволаму цельцу імгнення.
Вялікасны дар абнаўлення
Прыродзе ўласцівы адной.

Хіба нам угнацца за ёй?

Умее яна паўтарацць
Свой круг без канца і пачатку,

Учапіўшыся мёртваю хваткай
У юнацтва...
А нам не ўтрымаць.

Напэўна, таму і шчыміць
Душа напярэдадні мая.
Адно над тугою ўздымае —
Жаўрук,
што ў бяздонні звініць.
1982

***

*Маці прысвячаецца*

Мы выязджалі з Ягаднага ранкам —
З мясцін, што нехта называе глушшу,
Дзе жураўлі (калодзежы, не птушкі)
Яшчэ жывуць
і дзе стаяць буслянкі.

Развітваліся, дыхалі прыволлем.
Драмалі дзеці. Нетаропка днела.
Варотцамі і вёдрамі грымела
Рабінавая вулка.
Вось і поле.

Мякчэла маці кожненькаю рыскай,
Глядзела з прыхаванаю тугою:
Па гэтых сцежках бегала малою,
Тут вырастала,
тут яе калыска.

Яе калыска — значыцца, пачатак
Мяне самой.
Я макавінкай спела,
Пакуль яна за кніжкамі сядзела
І сёстравы данашвала апраткі.

Відаць, таму світальныя прасторы,
Рабіны, і жыты, і далягляды
І мой пагляд прыцягваюць уладна,
Са мной таксама хораша гавораць.
1982

## ПЕРШАЯ СУСТРЭЧА З ГРУЗІЯЙ

Кахецii суровыя пагоркi,
I далечы, i крэпасцi, i зоркi
Схаваў туман,
i не было палёгкi
Красою не натоленаму зроку.

Дзе, Алазань, твой нораў галубiны?
Дзе лозы неабдымнае далiны?
Дзе ясната, урачыстасць i лагода?
Адзiн туман!

Мясцовая прырода
Заўпарцiлася, быццам пажадала,
Каб я сюды яшчэ раз завiтала.
1982

***

Бурылi цэрквы,
i тынкоўкi пыл
Смугой гарачай засцiлаў пагляды.
Не бачылi нi ўнукавай пагарды,
Нi дзедаўскiх уздрыгнуўшых магiл.
(Падрыўнiкоў
прывезлi з Ленiнграда.)

Спяшалiся падпiсваць i рашаць.
Глядзеў народ маўклiва —
атэiсты.
Прыезджы адвярнуўся: «От вже бiси!»
(У Кiеве як макаўкi гарацъ!)

Апомнiмся.
Праз колькi там гадоў,
Калi прагрэс свае паднiме шалi,
Зноў давядзецца выклiкаць майстроў —
Рэстаўраваць усё,
што не ўзарвалi.
1982

***

На сугрэве шчаку пячэ,
Матылі не шукаюць сховы.
І не ведае дрэва яшчэ,
Ліст які абляцець гатовы.

У каторага зелянець,
Трапятацца не стала сілы...
Не пужае лісточка смерць —
Жыў бы корань,
маўчалі б пілы.

Жыў бы корань —
і дрэву жыць,
Славіць сонца лістоў галасамі.
Толькі першанькі, можа быць,
Адарвецца любімы самы...
1982

**ВЯРТАННЕ**

Кашлаты лес і Коласаўскі дом —
Усё тое ж.
Толькі бела за акном.
Сцюдзёныя разлёталіся мухі
Над елкамі...
Я тут жыла тады,
Калі дзіцяці будучага рухі
Мяне трывожылі,
а больш трывожыў ты.

Ты быў далёка — далей немагчыма,
Стаяў з другой на беразе другім.
Я па начах бяссоннымі вачыма
Цябе выглядвала
ў бездані тугі,

А днём збірала кветкі ды суніцы
І зноў чакала, верыла — дарма...
Калі засну —
няхай мне не прысніцца
Сляпая вера.
Ужо яе няма.

Дзіця таўхала ножкаю малою,
Давала знаць: «Жывое я! Я ёсць!»
Калі засну — няхай засне са мною
Балесная, святая маладосць.
1982

## І ШЧАСЦЕ БЫЛО!

Говорят, что несчастье
хорошая школа: может быть.
Но счастье есть лучший университет.
*А.С. Пушкін*

Перш за ўсё,
для сябе непрыкметна,
Праз ружовае гледзячы ў свет,
За адно вокамгненнае лета
Я канчала ўніверсітэт.

Вось і воля, жаданая воля!
Адпачне ад навук галава.
...А пасля я вучылася ў школе —
Што ні клас,
то гадочкі са два.

Што ні ўрок, то класічная драма.
Там канфліктаў якіх не было!
Я настаўнікаў помню таксама,
Вось імёны іх: Крыўда і Зло.

Пазіраю з прыжмурам сягоння,
Памудрэла, пярун на яго...
Я трымаю цяпер на далонях,
Як Феміда, дзве шалі вагоў.

І калі пераважвае тая,
На якую няшчасце лягло,
Я другую да сонца ўздымаю:
— Паглядзіце!
І шчасце было!
1983

***

Цвыркуна аглушальная ода
Ў гонар лета і ў гонар цяпла
Да паўночы заснуць не дала.
(Што ні ода — то, ведама, шкода.)

Для чаго так прылюдна хваліцца,
Стракатаць, што пашэнціла жыць!
Гэта лета як стой праляціць —
Толькі пыл па дарозе курыцца.

Перамогуць, пабольшаюць ночы,
Разгуляецца зух-лістабой.
Ён з радні цвыркуновай усёй
І з усіх, хто спяваў, парагоча.

Стане вечар панурым і звыклым...
Чым варочацца, марна злаваць,
Можа б, варта было пераняць
Хоць бы нотку шчаслівага зыку.
1983

***

Дзіця пераступае ганак,
Ідзе само асвойваць свет.
На шыі звязка абаранкаў
І малака на губках след.

І як шкада,
што праз хвіліну
Міне запылены «Масквіч»
Такую мілую карціну.
Ды застанецца —
кліч не кліч —

У паўзабытым вымярэнні,
У вёсцы, дзе пятнаццаць хат,
Маё жывое шчэ карэнне
Ды мой расчулены пагляд.
1983

***

Пралілася скупая сляза
І ўпала на тую магілу,
Што дзядулю майго затуліла
Ад жыцця, ад дабра і ад зла.

Не азваўся маўклівы грудок.
Паяднаны навекі з зямлёю,
Ты ці сочыш за доляй маёю,
Ты ці помніш мяне, мой дзядок?

Каб забыўся, было б мне лягчэй.
Не заўсёды бываю я вартай
Не замглёнага жалем пагляду,
Не закрытых любоўю вачэй...
1983

***

Цяплей не будзе.
Сонца, што ні дзень,
Усё ніжэй, усё калючай вецер.
Як павуцінка, успамін аб леце.
Бяздомны ліст свіціцца на вадзе.

Цяплей не будзе.
Любага пагляд
Пазбавіўся пяшчоты. (Гэтак вагі
Імкнуцца — праз усё — да раўнавагі.)
Не на мяне глядзіць каханы — над.

Навокал скразнякі. З усіх газет
Крычаць пра небяспеку загалоўкі.
Малая прыхінулася галоўкай.
Вось і кажу,
цяпла нам трэба, свет!
1983

***

Цягну я срэбраную нітку
З душы, з жывога пачуцця,
З яшчэ кароткага жыцця —
Такая доля.
Што ж я вытку?

Хіба ўзорамі-радкамі
Я перадам і боль, і страх,
І воблік часу, што прапах
Пагрозаю,
як лес — грыбамі?..

Дзіцяці роспачную слёзку,
Нязбытнасць — вечную — надзей...
Цягну, і страшна за палоску,
Што ўсё вузей.
1983

***

Ані плямкі на сінім шоўку
Небасхілу.
Саспела жыта.
Адмаўляецца верыць вока:
Жаўцізной і лясок пабіты.

Шчэ нядаўна ішла з падскокам,
За спіной валасы ляталі.
Адмаўляецца верыць вока:
У люстэрку кабета сталая.

Паднімае высока голаў,
А ў паглядзе — святлінкі жалю.
Ападаюць імгненні долу —
Шапатлівы дыван паслалі.

Што ў развазе стаіш, кабетка?
Ногі грузнуць?
Няма падмогі?
Сустракаць трыццаць трэцяе лета
Выйдзі завідна на дарогу.
1983

***

Пад нізкаю навіссю хмар
Стаім, а вакол — ані гуку.
Любові адвернуты твар
Маёй перакрыўлены мукай.

Мы з ёй — дзве балесных сястры.
Мы разам смяёмся і плачам.
І покуль жывём і гарым,
Што-небудзь усё-такі значым.

Хіба я здалела б адна
Сабою застацца?
Ды часам
Расплочвацца мусіць яна
За вынік маіх выкрунтасаў.

За прымхі і страхі мае,
За пудкасці вывіх даўнейшы,
За гонар, які не дае
Ступіць да абранага першай...

Сястрыца, ты мне памажы,
Вазьмі за руку, як малую,
Сама, падышоўшы, скажы
Яму —
што люблю і сумую.
1983

***

Шкада мне цябе, любоў,
Калі ты брыдзеш, нябога,
Апошняй сваёй дарогай,
Збіваючы ногі ў кроў.

Шкада мне цябе, любоў!

Учора другой была,
Умела смяяцца звонка.
Дзівіліся людзі з вокнаў
На яву твайго святла.

Учора другой была…

Прабач жа няверных нас.
Мы варты твайго папроку.
Ці верыш, што й нам нялёгка?

— Прабачце і вы мяне.
1983

***

Прайшло не многа і не мала,
Каб азірнуцца.
Дзе той дзень,
Што пёк, нібыта авадзень,
А я каменьчыкі збірала?

Нязвыклым колерам здзіўляе
Адзін, а формаю — другі…
Размыла мора берагі
Між днём і днём.
Стаю другая

З былою прагай спасціжэння
На гэтай прывіднай мяжы,
А пошум, родны і чужы,
Бяжыць і лашчыцца к каленям.

Дык дзе той дзень,
хто мне адкажа?
І што такое ўрэшце Час,
Калі не вечны водгук нас,
І нашых дум, і жыццяў нашых?
1983

## РУКА ЖЫЦЦЯ

Рука жыцця, нанізваючы годы,
На тое не пытае нашай згоды.

Стараецца, працуе без заган,
Як быццам перад ёю нейкі план.

Не ведаем мы,
колькі б ні гадалі,
Ці доўгія наніжуцца каралі,

Калі рука
(так падалося мне),
Стаміўшыся, за нітку тузане.
1983

***

І першы ручаёк, і першы снегапад
Аднолькава прыцягваюць пагляд.
Аднолькава нагадваюць пра час,
Які німала
не шкадуе нас.
Ды што нас шкадаваць?
Мы, дзень за днём
Праводзячы, рукою не ўзмахнём.
Марудныя, цяжкія на пад'ём.
Існуем,
ну, а лічыцца — жывём.
Ці не таму і снег, і ручаёк
Праз лінзу жальбы
ўспрымае зрок?
1983

***

Якая квецень!
Мора белізны —
Успененае, пахкае, жывое,
Народжанае яваю вясны.
Над вамі мора.
Мора нада мною.

Кароткі час цвісці і ападаць,
У зрэнках пацяплелых адбівацца.
У жывога прага жыць
і паўтараць
Сябе —
і раз, і два, і дваццаць!

Што не цвіце, таму і не адчуць,
Як долу гнуцца цяжкія галіны.
...Я іншае пары не захачу,
Калі мяне пацягне на ўспаміны,

Калі няўзнак разыдзецца смуга
Над тым,
што адышло і адквітнела.
І толькі сад,
пялёсткаў мітульга,
Сцяжыны паясочак белы-белы...
1983

***

У незапыленай лістоты
Наіву столькі,
столькі цноты!

Міргае яснымі вачыма,
А дзень вясновы міма, міма.
За ім другі, а там дзесяты...
І хто ўрэшце вінаваты,
Што хутка ўчадзее, пажухне
На гарадской пякельнай кухні?
Ужо ні цноты, ні наіву,
Ні маладой віхрастай грывы.

Такой яна сустрэне восень.
З ёй параўнаць нам засталося
Саміх сябе —
фінал гатовы.
Збягаюць
ад нязгоды
словы!
1984

## ОДА ЎДЗЯЧНАСЦІ

*В. Б.*

Які ж ты, удзячнасць, няўмольны
цяжар.
Чамусьці вагу тваю позна спазнала.
Ніводзін з дабром не зраўняецца дар —
Жыцця нават мала.

Ты бываеш загнанай, як падчарка, у кут,
Занядбанай нібыта, нябачнай — гадамі.
А на свяце душы — тут як тут! —
Спраўляеш свой баль разам з намі.

Чым аддзячу таму, хто не просіць
падзяк,
Хто забыў пра мяне — неістотнае звенне.
Хоць бы іскра ў вачах, хоць бы знак...
Нічагуткі!
Няма адпушчэння.
1984

***

У рэўнасці з нянавісцю адны
І звычкі, і манеры, і пагляды.
Хто іх не зведаў —
той невінаваты
Перад Дабром.
У цемрыве начным
Як данімаюць тая і другая!
Як спапяляюць — божа барані!
У іхнім хто не курчыўся агні,
У таго душа
да скону маладая.
1984

## СУХАВЕЙ

Як мы трызнілі хмараю тою...
Непазбежнай здавалася.
Міг —
І натоліцца зрок наш і слых
Жыватворнай нябеснай вадою.

Што з таго, што грымела і ззяла?
Ні дажджынкі, ні кроплі не ўпала.

Прывід хмары ўсё далей і далей.
На душу, дзе пякельная суш,
Расчараванасць легла, як вуж:
Сухавею мы ўсё ж не чакалі.

Хіба іскры з-пад вей — сухавей?
Хіба ўзлёты надзей — сухавей?
1984

***

Сустрэнемся, мой дружа, выпадкова
Між гарадской вірлівай гаманы.
Не трэба нам нязмушанай размовы —
Даўно адкрасавалі нашы словы,
Пасохлі несарваныя яны.

Адно нам засталося: углядацца,
Шукаючы даўнейшага агню
Ў вачах і вуснах,
у трымценні пальцаў,
Прыціснутых к грудзям...
Я не зманю!

Я ўсё скажу, нічога не сказаўшы,
Павейкамі папрок свой прытушу.
Сустрэчу непрадбачаную нашу,
Прадбачыўшы даўно,
я не схлушу...
1984

***

Маладзенькі зубок касача
Выдзіраўся, вылузваўся з глебы.
— Трэба сонца! Надыхацца трэба! —
Наваколлю нібыта крычаў.

Не было ні лістоў, ні травы,
Ні цяпла, што вясну абвяшчае.
Шкадавала чамусь касача я.
Шкадаваць ці ўмееце вы?

Вам ці выпала тоўшчу прабіць,
Імкнучыся да гойлівых промняў?
Я падрапанай скураю помню
Усе грудочкі.
А вам не баліць?

У такім разе — не станьце знарок
На жывы, на малочны зубок.
1984

***

Той жураве́ль, што сніўся, прыляцеў.
Загад вясны.
Хіба ёй запярэчыш?
Бярозу дояць, дзень усё расце,
І сэнс інакшы набываюць рэчы.

Вы чуеце — апошні стогне лёд,
Варушацца зняволеныя воды.
Вясновы промень мецiць
навылёт —
Няма яму ніякай перашкоды.

Прасвечвае рэнтгенам красавік
Ад холаду парэпаныя душы,
І тыя ажываюць,
першы крык
Ліста нованароджанага ўчуўшы.

Праз тыдзень —
аглушальны будзе хор,
Аздоблены птушыным шчабятаннем.
А журавель?
Ён мой мінае двор,
Каб зноў прысніцца соладка
пад ранне.
1984

***

У зялёным небе жніўня,
Небе золкім, вечаровым,
Як на стозе, на аблоку
Стома-матухна сядзіць.

Аглядае гмахі, хаты,
Сон на вейкі пасылае
І з бліжэйшае хмурынкі
Мару думае спіхнуць.

Тая ж сыпле на абшары
Летуценні поўнай жменяй.
Не зважае на суседку —
Годнасць ведае сваю.

Стома з марай варагіні
Ад пачатку, мабыць, свету.
У іх адвечнае змаганне
Ўмяшана сёння я.

Як магу, перамагаю
Сон спакусны, неадольны.
Мне б адзіны хоць лятунак,
Як бывала, улавіць...
1984

## НА СЦЭНЕ ДНЯ

Рассоўваем мы штору, як заслону,
Выходзячы на сцэну дня
штодзённа.

Хто ў галоўнай ролі, хто статыст.
Узнагарода — воплескі ці свіст.

Здараецца, як найвышэйшай ласкі
Чакаем мы нябачнае падказкі

Перад рашучым крокам.
І дарма.
Суфлёра аніводнага няма.

Як рэжысёр, кіруе намі лёс,
Усмешак патрабуе ён і слёз.

Выкладваемся. Плачам і рагочам.
На сцэне дня
халтурыць мы не хочам.
1984

## ІСЦІНА

Першаісны парваўшы змрок,
Свой папоўнілі род калісьці.
Ледзьве не з малаком мацярок
Мы засвойвалі
першую з ісцін:
Дом для таго, каб у ім жылі,
Поле — каб ураблялі,
Дзеці — каб будучыню ў Зямлі
Нелюдзі не адабралі.
1984

## ТРЫ БАЛКОНЫ

Дом узняўся, фарсісты і гонкі,
На віду ў квартала стаіць.
На адным балконе — пялёнкі,
На другім — старыя валёнкі,
На трэцім — дублёнка вісіць.

Дзе пялёнкі — бяссонныя ночы.
Маяком той агеньчык адзін,
Каб свет да загубы не збочыў
У акіяне быцця штармавым.

Дзе валёнкі — там кашаль, вядома,
Аблачынка чупрыны сівой.
На плячах — стома цэлага дома,
А пагляд заімглёны вайной.

Дзе дублёнка — дымок цыгарэты
Ды пярсцёнак на левай руцэ.
Там жаночых пранізлівых бедаў,
Як разводдзем ільдзін у рацэ.

На балконы зірнуць (завядзёнка)
Трэба ранічкай і ўдакладніць:
На адным —
бялеюць пялёнкі,
На другім —
старыя валёнкі,
На трэцім —
дублёнка вісіць.
1984

***

Скарачаем дарогі мы.
Звычай такі.
Экакомячы хвілю,
задыхана, бежкі
Праз газоны і клумбы
пракладваем сцежкі.

Мы спяшаемся.
Мы мастакі — напраскі.

Уварвём у наступнасці
момант адзін,
На імгненне падоўжым —
здаецца нам — долю.
Ды чамусьці ні тыдняў,
ні сутак ніколі
Не складаецца з крадзеных
гэтых хвілін.

Раўчуком непрыкметным
сцякаюць куды?
Альбо ім па душы
падарожнічаць з ветрам?
Калі я абыду
прытаптаную кветку,
Можа, мне хоць хвілінaчку
вернуць гады?
1984

***

Ёсць вышэйшая несправядлівасць,
Не прыняць,
не спасцігнуць яе.
Даглядала і песціла ніву,
Ды не ўчула, як колас пяе.

Па сваім, нетутэйшым парадку,
У час, калі разгараўся ўсход,
Выбіў град небыцця даастатку
Плён душы маёй, цела плод.

Адгрымела,
і чорны ад болю
Белы дзень прыкіпеў да акна.
Цішыня на спустошаным полі —
Каб азвалася птушка адна.
1984

***

У застарэлага болю
перавага адна:
Ён ужо не пячэ
ад відна да відна.
Толькі ціха шчыміць,
толькі знак падае,
Што яшчэ не памёр,
што яшчэ існуе.
Тонка-цененькі гук —
бы камарыка звон.
А як добра чуцён,
як знясільвае ён!
Не прагнаць, не змахнуць,
не прыстукнуць рукой...
Камарыны, нявінны,
бязлітасны рой.
1984

***

Зіма ўступіла ў дачны гарадок
І надала завершанасць пейзажу.
То не жылы —
то прывідны куток,
Ілюзія ўвасобленая наша.

Нам думаецца, што ўдалечыні
Ад безлічы людской ад мітуслівай
Надточацца падораныя дні,
Забудуцца іх выбрыкі і звівы.

Тут глеба навучае нас азам
Стараннасці,
і ўсе яе сакрэты,
Няроўнячы, што казачны Сезам,
Перад якім мы — укленчыўшы, паэты.

Тут лона неабдымнае відно,
Што зоркі і сузор'і нараджае,
Што велічна, бясстрасна

на кіно —
Часовае, зямное — пазірае.

А мы між двух пачаткаў і асноў —
Часцінка, атам, розуму іскрынка.
Такая бель...
Такое свята сноў...
І на шчацэ — салёная сняжынка.
1985

***

Усё на лепшае, што ні робіцца...
Ах ты, горкая мудрасць!
Спрадвек
Ты вучыла не плакаць, не горбіцца,
Суцяшаўся табой чалавек.

Галадаў і калеў.
Дарэшты
Выгарала жытло ў бедака,
Уздыхаў ён сярод галавешак:
Перамелецца — будзе мука.

У гарачцы кідаўся.
Малымі
Ён адвозіў дзяцей на клады,
І луналі анёлы над імі,
І жыццё мізарнела тады.

Ды вытрымліваў, тварам чорны.
І калі апануе слата,
Петушыцца: бяда — шчэ не гора,
Ну, а гора — тым больш не бяда.
1985

***

Мы цешымся падчас самападманам
Усеразумення.
Цешымся дарма.
Вяршыні не разгледзіш за туманам,

У возера ляснога дна няма.
Адценняў шмат у камені і ў хвалі,
А чалавек — хіба на далані?
Яго тысячагоддзі фармавалі,
Яго ўсе навукі вывучалі
І ў выніку не ведаюць ані.
Што плоць, яе дары і болькі!
Хачу матэрыяльную душу
Даследаваць, дазнацца:
жыць ёй колькі?
Я ведання — не вечнасці! — прашу.
Самападман на самапаглыбленне
Змяню я — каб, насуперак мане,
Прад тайнай апусціцца на калені,
Што разгадана мной
і для мяне.
1985

***

Пастукаю ў суседнюю душу,
Пачую насцярожанае:
«Хто там?»
І вызірне праз шчылку адзінота,
І я нялоўка солі папрашу
Альбо запалак.
Болей — не пасмею.
Сябе ж не прапануеш у сябры,
Маўляў, вось я,
прыгледзься і бяры,
Маўляў, я не прадам, я зразумею.
Ад холаду сцінаецца нутро,
А любасць непатрачаная плача
Па тым, хто зачыніўся, як гарлачык,
Маўкліва адвяргаючы дабро.
Чужога блізка ён не падпускае,
У сабе самім замураваны спрэс.
А я ўсё стукаю.
Я не жадаю без
Супольнасці!
Без дружбы — не жадаю!
1985

***

Жыццё маё, ты кропля ў моры жыццяў.
Няма ці ёсць —
нідзе ніякіх змен.
Не зварухнецца прывідны бязмен,
Што важыць існаванне.
Дык скажыце,
Ці трэба кропля?
Цэлы свет навошта
Адлюстраваны, нібы ў зрэнцы, у ёй?
Чаму за вопыт чалавечы мой
Плачу падчас я завялікім коштам?
Па чым душа баліць
у зорнай высі?
За што няславяць
хіжыя раты?
Для мэт якіх
адпушчаны гады?
Пытанні нада мной, як правады
Высакавольтнай лініі,
павіслі.
1986

## ДАПАМАГАЙЦЕ МАЛАДЫМ!

Дапамагайце маладым,
То нашай будучыні звенні.
За імі гоняцца сумненні,
А ганарар — гады ў рады.

Прышле раёнка тры рублі —
Сусед нядобра пазірае.
А іх жа Муза выбірае!
Іх неба любіць на зямлі!

Без нас абыдуцца хіба?
І з гарадкоў, і з сельскіх нетраў
Прыходзяць тоўстыя канверты,
Дзе вершам цесна, як грыбам.

Вы перабралі іх, імчыць
Зваротны ліст да небаракі,
З якога ясна: ён ніякі
Паэт,
і лепш дзяцей вучыць.

Калі ж сасватаеце ў друк —
Якія сілы ў іх прачнуцца!
Вам будзе доўга-доўга чуцца
Душы чужой удзячны гук.

Вы даражыць умейце ім.
Пакуль пыхлівасці кароста
Не з'ела ў вас высакародства —
Дапамагайце маладым!
1986

### СПЯЦЬ КАРАНІ

Акачанелае голае дрэва,
Сілу чыю замарозіў мароз,
Кожнай галінкаю ловіць, як нервам,
Цененькі, слабенькі голас нябёс.

Спяць карані,
і парушана сувязь
З глебай, з пачаткам,
з асновай асноў.
Спяць карані,
і даўжэзныя суткі
Сеці плятуць з летуценняў і сноў.

Трапіць хіба беспрытульная зорка,
Будзе луской залацістаю ззяць...
Спяць карані —
і бунтоўныя сокі
Гэтак жа моцна і соладка спяць.
1985

## СУСТРЭЧА

Пакуль брусніцы, укленчыўшы, збірала,
Асушаны прытоптваючы мох,
Карычневая змейка прапаўзала
Між купінаў,
амаль што каля ног.

Няспешнаю бліскучай ручаінай
Цякла
і не глядзела па баках.
Загусла і падоўжала хвіліна.
Я зразумела, што такое страх.

Яна ж цякла, струменіла, бруіла,
Сцвярджала незалежнасцю сваёй:
Яшчэ хапае годнасці і сілы
Ў матухны-прыроды маладой.

І знікла ў ганарлівай адзіноце,
Упэўненая раз і назаўжды
Ў тым, што гаспадыня на балоце.
...А пад нагой —
ні кропелькі вады.
1985

***

Ты адкуль, заімшэлы валун?
Пад якою народжаны зоркай?
Сонца росны аблізвае бок
І нічога ў цябе не пытае.

Дзе ні жыў —
а прыжыўся вось тут.
Што ні бачыў —
а бачыш паблізу
Сад здзічэлы ды поплаў пусты.
Ты і сам адзічэў за стагоддзі.

Скамянелі жаданні тваe
Ў чаргаваннях спякоты і золі.
А калі паказыча прамень,
Сам сабе па-старэчы смяешся.

Толькі сіла на звод не ідзе,
Толькі сэнс у жыцця невядомы.
Азірае абсягі хлапчук,
Што ўссадзіў ты сабе на пагэршкі.
1986

***

Берэт блакітны адцяняе твар,
Медаль трымацца прымушае чынна.
Здагадваюся: бронзавы загар
Зусім не з мора
ў гэтага хлапчыны.

Год службы за спіною.
Цэлы год.
І цэлае стагоддзе — для матулі.
Ёй сніцца, як душман ашчэрыў рот
І як ляціць, нацэліўшыся, куля.

Ляціць — і набліжае да бяды...
Чытаю на медалі: «За адвагу»,
Узіраюся ў воблік малады
І халадзею ў нейкі міг ад страху.

Крывіначка чыясь...
Табе народ
Спакой даверыў і зямлі, і дома.
Год службы за спіною.
Цэлы год.
І год яшчэ наперадзе, вядома.
1986

## НЕНАПІСАНЫ ВЕРШ

«Палынная зорка
Ўзышла над маёю зямлёю...»
Прыгожа гучыць, ці не праўда?
Я думала верш напісаць.

Але, узбунтаваўшыся, словы
Мне пеўчае горла падралі,
І з кроўю сышла мая прага
Прыгожа пісаць пра бяду.

Мне бачацца вёскі пустыя
Ды жудасны горб саркафага.
Пужае і сёння гарбун
З яго непатухшаю люлькай...
1987

***

Штодня мяне ў сваім віры
Жыццё круціла і матляла,
А я ў турботах патанала
І не глядзела, што ўгары.

І неба звыклы рытуал
Вяршыла без майго ўдзелу:
Снег асыпаўся снежна-белы
Ды непрыкметна раставаў.

Рабіўся поўняй маладзік,
Палалі захады і ўсходы.
Я абражала тым прыроду,
Што ад яе мой зрок адвык.

Любоў зыначвае душу.
У снегападу, у навальніцы,
У кожнай, кожненькай драбніцы
Я даравання папрашу...
1987

## У ШЫБУ ГЛЯДЗЕЎ МАЛАДЗІК

### БАЛАДА ПРА ПОМНІК

Пакінула вёску жанчына,
Паехала назаўжды
Ад сына, ад роднага сына
Што ў бронзе стаіць малады.
Мільгаюць пасёлкі, прысады, лясы...
Для некага — помнік.
Для маці — сын.

Вёдры нясе ўранні —
бачыць сына.
Днём у акенца гляне —
бачыць сына.
З поля пад вечар крочыць —
бачыць сына.
Вочы заплюшчыць ноччу —
бачыць сына.

Вось яе першынец, блізка,
Побач, пад шатамі дрэў.
Не верыць душа мацярынская,
Што чуб залаты скамянеў,
Што твар не сагрэць схаладзелы,
Што падае снег на чало,
Што юнае дужае цела
Крывёю ў акопе сцякло...
Мільгаюць пасёлкі, прысады, лясы...
Для некага — помнік.
Для маці — сын.
1980

### ЕЛАЧКА

Ёй сонца — вораг.
Елачка расце,
Схаваўшыся ад промняў
Пад бярозай.

Бяскрыўдная і мілая, яна
Дужэе не па днях, а па гадзінах,
Бліскучыя галіны развінае
Усё шырэй —
Абняць нібыта хоча
І лес, і свет у самазабыцці...
А вырасшы, у суседкі адбярэ
І сонца, і жыццё само
Яна.
1981

## ЗДАРЭННЕ НА ПРЫПЫНКУ

Пад'ехаў бліскучы аўтобус,
Дзверцы раскрыў запрашальна —
Ды я не скранулася з месца.
Аўтобус стаяў і чакаў.
Пялёсткі асыпала вішня,
Затым і лугі пакасілі.
Зжаўцела лістота.
Аўтобус
Цярпліва стаяў і чакаў.
Маршчынкі твой лоб перасеклі,
Мой стан перастаў быць дзявочым.
Гарчэла на вуснах расстанне.
Маю не пускаў ты руку.
Нарэшце парвала я путы
Твайго (назаўжды!)
Прыцягнення,
Хацела ступіць на прыступку...
Са звонам
закрыліся
дзверцы.
1981

## БЫЛЬ ПРА БАБКУ ПАЎЛІНУ

Усю зіму — быў мароз такі
Наша бабка жыла ў дачкі.

Да лістоты, да першага грому
Выязджала яна дадому.

Адамкнула — і цяжар з плеч!
Прапаліла перш-наперш печ.

Каб на старасці цешыўся зрок,
Пасадзіла ў бляшанцы бабок.

Каб не быць без работы,
да ладу
Давяла і садок, і грады.

Неўзабаве на дворыку вузкім
Захадзілі паважныя гускі,

Ну, а потым (пазычыла грошай)
Парсючок паявіўся харошы.

Хай злуюцца дачка і ўнукі —
У бабулі не зломкі, а рукі!

У каморку пайшла па хлеб...
Дый упала.
І свет аслеп.

У дачкі, што бялізну мыла,
Сэрца ёкнула і заныла.

Сцяўся, гора пачуў вазон:
Пагубляў свае кветкі ён.

У разоры налівы, антоны
Сталі сыпацца градам зялёным.

Вокамгненна, прыждаўшы часіну,
Паабсела куты павуціна,

А на двор (за якія грахі?)
Пацягліся гужом лапухі.

З лапухоў тых узмахам кароткім
Выляталі не гускі — лябёдкі.

Парсючок праз варотцы пралез
Ды пабег, адзічэўшы, у лес...

І слязьмі, што па ёй праліты,
Нашы ночы і дні абмыты...
1982

## БЫЛЬ БЕЗ НАЗВЫ

Была я аднойчы адна,
Па кропельцы волю піла я.
Лятала рука дацямна,
Як пчолка,— старонка, другая...
Я ноччу заснуць не змагла.
І вось адчыніліся дзверы,
Паперы змяло са стала
І ў бездань шпурнула паперы.
Віхор, што наймення не меў,
А меў толькі страсць і адвагу,
Цыганскім паглядам глядзеў,
І я трапятала ад страху.
— За што? Я не клікала вас,
Мне крэпасцю дом мой да скону.
Віхор рагатаў у адказ
І раіў забыць забабоны,
Паставіўшы ўніз галавой
Гадамі наладжаны побыт,
Ён сам любаваўся сабой
Ды горача дыхаў, а потым
Растаў, праваліўся, знік —
Ні знаку няма, ані следу...
У шыбу глядзеў маладзік,
Нібы ўсё наперад ведаў.

Назаўтра, калі па сцяне
Прагульваўся промнік бязгрэшны,
Вярнуўся на стол да мяне
Адзіны лісток беласнежны.
1982

***

Развялося замнога чарвы.
Папсаваны плады, што наліты.
Прадстаўніца садовай эліты
Асыпаецца ў схову травы.

Спадзявалася яблыня нас
Пекнатою пацешыць і смакам.
І расла, і цвіла, небарака,
І мацнеў сацыяльны заказ.

Хто сурочыў?
Пладоў капяжы.
Заламаны галіны ў скрусе.
Стук ды стук,
і пражорлівы вусень
Усміхаецца, пэўна, ў душы.
1983

## МАНАЛОГ ПАЎДНЁВАГА ДРЭВА

Я скінула кару.
Я вызваленым целам
З вясною гавару.
Я гэтага хацела.
Хоць шапаткі чуваць,
Што неяк не прынята
Вам сутнасць адкрываць,—
Я быць сабою рада!
Не скура на камлі
(Назвалі бессаромным) —
То звісла да зямлі
Ашмоцце забабонаў.
То даўнасці маёй
Каравае аблічча,
То трызніць чысцінёй
І вызваліцца кліча.
Даўжэй, святочней дні.
Расту я вышай, вышай,

Значенне вышыні
Сваёй усведаміўшы.
І лашчацца вятры
К майму прамому стану.
І лахманы кары
З крывёю абарваны.
1983—1988

## БЫЛЬ ПРА ГОЛАГА

Выпаўзаў з-пад крывавых цел,
Чуў апошнія нечыя стогны.
Бег ад ямы — бялей, чым мел,
Тварам быў і не ведаў стомы.

Падаў, плакаў, спяшаў туды,
Дзе міргае агеньчык кволы.
Чалавек уцякаў ад бяды
Па апалай лістоце. Голы.

Ён аддыхацца ўсё не мог,
Калі стукаць пачаў у акенца.
— Дай ты мне, напрамілы бог,
Гаспадынька, хаця адзецца.

Паглядзела, як апякла,
Шмарганула хутчэй фіранку.
Асцярожнай, відаць, была.
Начаваў чалавек на ганку.

Ён запомніў дарэшты ўсё —
І гародчык, і дом, і грушу,
А назаўтра дастаў рыззё
Ў суседзяў.
Спыніцца мушу.

Праз гады пераскочыць верш.
У бастонавай пары новай
Завітаў чалавек,
і перш,
Чым знайшліся якія словы,

Ёй у вочы зірнуў. Яна
Мітуслiва фартух здымала.
І стаяла ля іх вайна —
Выскалялася, рагатала.

Чула ўсё, што не чулі мы,
Ды падміргвала нам заўзята.
І грымелі яе грамы
Ў небе ясным пяцідзесятых.

...Недарэчна пабегла ўслед,
Спрабавала тлумачыць штосьці.
Асыпаўся з ігрушы цвет.
Датлявалі за вёскай косці.
1983

## МАНАЛОГ КАКТУСА НА ПАДАКОННІКУ

Для жыцця мне хапае святла.
Абыдуся без вашай увагі.
Мне пустыня цярплівасць дала
І дала незалежнасць ад смагі.

Не прысніцца мне ўночы вада,
Так, як вам — вашы дзённыя мроі.
І што брыдкі сабой — не бяда.
(Прыйдзе час любавацца і мною.)

Я суседзям не брат і не сват,
Што ў пашане.
Ды божа мой мілы:
Хоць адзін бы пяшчотны пагляд!
Каб істота адна палюбіла!

Вам бы ведаць, як цяжка ўва мне,
Як жадана, урачыста (бо рэдка)
Выспявае... праростае... Не,
Праразаецца першая кветка!

Даастатку ёй сілу аддам
І смак перамогі спазнаю,
Калі раніцай ахнецца вам:
— Паглядзіце!
Ды ён расцвітае!
1984

## ЖАЎНА

Сядзела каля вулея жаўна
І пчолак, абцяжараных узяткам,
Немітуслівa склёўвала яна —
З вялікім апетытам,
па парадку.

Жаўна, скажу вам, прагнаю была,
Бо добра згаладалася за весну.
Ды нейкая чарговая пчала
Ў горла не пайшла ёй,
не палезла.

Задумалася птушка:
як тут быць?
«Няхай жыве»,— сказала
і ўздыхнула,
Яна цяжар вялізазны нібы
Ў тэты міг
з душы сваёй спіхнула.

...О дабрата, няма табе цаны!
Ты — госця сфер вышэйшых,
запаветных.
Ты нават паслядоўніка жаўны
Ўзвысіш —
да наступнага абеду.
1984

## ДЗІЧКА

— Зрабіце мне хоць крышачку дабра,—
Прасіла груша-дзічка пры дарозе.—
Я вам аддзячу.
Я свой чэзлы плод
Узрашчу вялікім, сакаўным і жоўтым.

Пераўзыду — паглядзіце! — сябе,
Удасканалю ўласную пароду,
Калі чыясьці рупная рука
Абрэжа, паліе і абкапае.

Я вам аддзячу!
...Ды каторы год
Праходзяць, праязджаюць людзі міма,
І трушчыцца пад колам і нагой
Нікому не патрэбнае маленне.
1984

## БЫЛЬ ПРА ВОЗЕРА

Акружана паданнямі і лесам
Круглявае, як вока, азярцо.
Пад берагамі зыбаецца багна —
Не падысці!
Русалкам тут раздолле.

Тут у вадзе ад першага прышэсця
Не завялося рыбкі ці жука,
І толькі змеі неяк выжываюць
У мёртвай і загадкавай вадзе.

Калі ж зімой замерзне — мужыкі
Жардзіны звязвалі і дно дастаць хацелі.
Куды там! І сталічны вадалаз
Ледзь выбраўся...
На тым спынілі спробы.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Завалакла мінуласці смуга
Той час.
Ад вёскі і да вёскі
Хадзіў дзядок з залатанаю торбай,
Руку працягваў, старасцю сагнуты.

Давалі хто што мог: і медзякі,
І абшчыпаны ўнукамі акраец,
Гароху жменю, кубак малака
Альбо апад, што грукнуўся ўночы.

Быў строгім гэты дзед, негаваркім,
І хоць прасіў, ды кланяўся паважна,
І працінаў дапытлівы пагляд
Палешукоў.
Ды вось у нейкай з вёсак
Яго сустрэлі лаянкай:
— Няўжо
Ты гэткім немагушчым, дзед, зрабіўся,
Што мусіш пабірацца?
І куды
Тваё прапала семя — дзеці, унукі?
Ці, можа, ты ім даўся ў знакі, і яны
Цябе прагналі? Лішняга не маем!

Мужчыны пасміхаліся. Жанкі
Крыкліва насядалі — рукі ў бокі,
А хлапчукі, узбіўшыся на плот,
Дапоўнілі карціну гучным свістам.

Ні слова не прамовіў дзіўны дзед.
Перахрысціў людзей, што замаўчалі
Ад сполаху раптоўнага...
Пайшоў.
За ноч адну прапала тая вёска.

Ні каміноў, ні гумнаў, ні прысад,
Глядзяцца хмаркі ў люстранае мліва.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я падкажу вам адрас азярца.
Ні адраса, ні аўтара ў падання,—
Адна мараль. Яе перакажу,
Зацвердзіўшы, як множання табліцу:
Калі не дапамог, не паспрыяў,
Падставіў ножку — бойся праваліцца!
1984

## БЫЛЬ ПРА ЎЧАРАШНІ ДЗЕНЬ

Гадзіннік паказваў без чвэрткі пяць.
Чалавеку б спакойна спаць,
А вейкі хоць зашывай.
Ды вось
У шыбу пастукаў хтось.

Чалавек здрыгануўся, падумаў:
— Хто там?
Ён забыў, што жыве на чацвёртым,
Што здольны ў акно зазіраць па начах
Толькі бяссонніцай змучаны птах.

Стук паўтарыўся, упарты і ціхі.
Не, то не дзюбка старой галубіхі.
Вызірнуў — пуста.
Калышацца цень.
— Хто ты?
— Я твой учарашні дзень.

— Дзень? (Не адразу дайшло.)
Учарашні?
Чуе: па целе пабеглі мурашкі.
Дзень быў як дзень. Прывалокся чаго?
Спаць замінае, пярун на яго...

У голасе ценю пакуль што лагода:
— Я табе, браце, не перашкода.
(Божа, ды ён тэлепат! Не хапала,
Каб бесцялеснае думкі чытала!)
— Спаць не дае табе штосьці другое

Высветлім — што.
Цень ужо у пакоі.
Цень цыгарэту ў руках размінае,
Кажа развважліва:
— Паўспамінаем?

Вецер сухою лістотай шапоча.
У чалавека вялікія вочы:
Ён бы і ўспомніў, ды што —
Вось пытанне!
Шэрым завешана дня існаванне.

— Дні — яны, ведаеш, быццам
блізняты.
Так... Пазаўчора давалі зарплату,
Дык галава на рабоце балела.
Покуль адчыняць...
Такое вось дзела.

Вечарам гурт у двары сабіраўся...
— Думаў аб чым? За каго хваляваўся?
Цень відавочна нервуецца, курыць,
Бровы свае нездаволена хмурыць.—
Марыў пра што?
І каго ты аддзячыў?
З чым ваяваў ты і што перайначыў?

Дзіўна пытаецца. Што адказаць?
— Маці старой абяцаў напісаць,
Жонку праведаць (з малым у бальніцы),
Спортам заняцца хацеў і вучыцца...

— Хопіць! — зароў чалавек.—
Замаўчы!
Іншых ідзі настаўляй і вучы!
Торкае пальцам у шыбіну:
— Вон!

Ценю не стала.
Хутчэй бы сон.

Ціха, гадзіннік спяшае адно.
Раптам — настойлівы стук у акно.
Хтосьці нябачны, нябачнасцю страшны
Кажа:
— Я месяц твой учарашні.
У чалавека халодны пот:
Што, як за імі — учарашні год?!
1984

## ЗНІКНЕННЕ БЛАЗНА

З трэцяй дзеі «Караля Ліра»
бясследна знікае блазен,
і больш пра яго не ўпамінаецца.

Прапаў паяц. Не стала зубаскала,
Прайдохі, перасмешніка не стала.

Адпала ў ім патрэба,
вось і ўсё.
Стракатае валяецца рыззё.

Даўнейшы зух ужо не мае кошту.
Таварыш блазен,
кінуў нас навошта?

Хто маскі пазрывае з нашых твараў,
Святых пакажа свету
і пачвараў?

Хто парагоча смела, без аглядкі?
Хто выкажа, нарэшце, праўду-матку?

Як без цябе наступныя вякі?
...Качаюцца ў пыле шаргункі,

І той, каму не пагражаюць кпіны,
Нагою іх паблажліва падкіне.
1985

## МЯЦЕЛІЦА

Мяцеліца рахманай дужа стала —
Усё, што скажа люты, выпаўняла.

Пагляд нявінны долу —
каб не ўбачыў
Іскрынак небяспечных і гарачых.

Пакорная, спяліла непакору.
Як слалася
(а ёй бы ўзвіцца ўгору!),

Як прыцішала нораў свой і крок,
Як цешыла сабой суровы зрок!..

Ды не стрывала.
Узвіхрылася ў неба,
Аж дзень і ноч аўкнуліся слепа.

Парвала забароны ўсе і путы.
Якая розніца,
што заўтра скажа люты!
1986

***

Ластаўкі зляцеліся на сход.
Птушыны заклапочаны народ,
Вядома, абышоўся без даклада,
Ды калгатні ўсё ж
было багата.

— Пахаладнела,— піскнула адна.
Другая запярэчыла:
— Мана!
Пакуль хапае мух, датуль і лета.
(Ухвальна ўсе заціўкалі на гэта.)

— І ўсё ж — туман...—
мацнеюць галасы,—

Сцюдзёным, зімнім вее ад расы...
— Даліся вам і росы, і туманы:
Штолета выбіраемся зарана.

— Паслухаем старэйшых. Ім відней,
Калі ляцець.
— Збіраемся!
— Хутчэй!

Маўчала толькі ластаўка старая.
Яна такія сходы памятае.
Самотна ёй.
Падказваюць гады:
Не даляціць...
Не вернецца сюды...
1986

## АБРЭЗАНЫЯ ТАПОЛІ

Хто ні ўбачыць, міжволі сцінаецца:
Растапыраны кульці-галіны.
Падразаць рэгулярна і чынна —
Нечы клопат і нечая праца.

Што загадана — тое законна.
Вальнадумства не ўсім па кішэні.
І таполі стаяць, як мішэні
Для старанных і розумам сонных.

Разрастацца таполям занадта
Небяспечна
і лічыцца — шкодна.
Гарадская сучасная мода —
Абкарнаць,
і няма вінаватых.

Хтосьці дбае пра воблік сталіцы:
Падразаюцца дрэвы... і песні.
І няма куды птушцы прысесці,
І няма дзе гнязду прычапіцца.
1987

***

Завісае над полем каршун,
завісае...
Ён няйначай ахвяру сабе выглядае.

Ён сваё прызначэнне засвоіў даўно,
Незвычайнаму воку
далёка відно.

І палёўку, што спраўна
зярнятка грызе,
Чэпка схопіць каршун
і з сабой панясе.

Сцеражыцеся,
Бога стварэнні малыя —
Хто капошыцца,
плодзіцца, бегае, рые!

Хто жадае, як мы, цішыні і цяпла,
Хто жыве і канае
пад ценем крыла.
1987

## ШПАК

Выбіўся з шэрасці ён.
Домік, што ў пана.
Шпак на сваячак-варон
Глядзіць без пашаны.

Любіць узяць наш герой
Пекную ноту,
Седзячы веснай парой
Над агародам.

Вочы заплюсне ажно,
Дзюбку адчыніць...
Гэтак далёка чутно
Посвіст шпачыны.

У голасе ёсць і краса,—
Пэўна ж, няўломак.
Ды разумее ён сам,
Што не салоўка.

Хоць надарвіся, аднак
Вывад гатовы:
Шпак — ён і ёсцека шпак,
Тэнар мясцовы.
1987

## ЦЯЧЭ РАКА

Цячэ рака, яна яшчэ жывая —
Лёд прыбярэжны тонкі падмывае.

Цячэ рака.
Мароз жа ўсё мацнее.
Цячэ рака — і ўсё-ткі сцюдзянее,

Скараецца, знясільваецца, стыне,
Як чалавек самотны на чужыне.

Наступны дзень халодны, безвыходны,
І жах падлёдны,
і пратэст падлёдны.

Як у магіле — вусцішна і ціха...
А потым
на рабро ўстане
крыга!
1987

## МАНАЛОГ ПАДЛЁДНАЙ РЫБІНЫ

Як душыць лядовая тоўшча, як цісне...
Зіма па-над намі —
найгоршая з зім.
У нашай азёрнай пасторнай айчыне,
Бадай, кіслароду не стала зусім.

Як сёстрам маім і братам дачакацца
Вясновай праталіны,
як ім дажыць
Да хваль жыццяносных, што мрояцца,
сняцца
У гэтай падлёднай смяротнай імжы?

Усё, чым жылі і што зараз далёка,
На што спадзяваліся ўсёй грамадой,
Гатовы аддаць мы за сіняе вока,
За яснае вока палонкі адной!

Калі ж яно выблісне,
гляне, урэшце,
На нашы пакуты —
мы рынемся ўсе
Ў вёдры, у кошыкі, сумкі і сеці,
І нас на вячэру дзіця панясе.
1987

***

Счарвівеў грыб не вырасшы.
Бывае.
Грыбніца рукі белыя ламае.

У чым яе, гаротніцы, віна?
Дзяцей гадуе, ведама ж, адна.

Малодшанькі на выгляд хоць куды.
Пашэнціла — пазбег скаварады.

Схаваўся пад лісточак (малайчына!),
Калі грыбнік тут віжаваў вачыма.

Дужэў ён і надзеі падаваў...
І раптам... Вось...
Што сіта галава.

Цяпер ні навучацца, ні жаніцца...
І ціхенька усхліпвае грыбніца.
1988

## І ЗРАЗУМЕЕМ: МЫ ЖЫЛІ!

***

Сто абліччаў хмурынкі
Нам вечар прынёс:
То гульня і забава,
То пакута ўсур'ёз.
То пястуха-усмешка,
То сіротка-туга,
І на вейцы дрыготкай
Слязы мітульга.

Убіраючы ў памяць
Кожны зменлівы міг,
Называлі мы зорку
На мовах сваіх.
Мне б трымацца дасюль
За праменьчык святла,
А як зорку завуць —
Прыгадаць не змагла...
1985

***

Наталі маю прагу дабра,
Невялічкім лістом адгукніся.
Не кахаеш, дык хоць прытварыся —
Не прадасць цябе росчырк пяра.

— Як жа праўда? — спытаешся ты,
Я шаную яе і вітаю.
Ды мілейшым за праўду бывае
Міласэрнасці воблік святы.

Разляцяцца злавесныя сны,
Падужэю
і некалі, можа,
Я табе напішу:
— Мой харошы,
Вызваляю цябе ад маны.

Пашукай паміж многіх такой,
Каб ты мог у парыве аднойчы
Ўсё сказаць, не хаваючы вочы,
Усё пачуць, не збалеўшы душой.
1985

***

Была страла ўзлётнай паласы.
Была нуда заезду, падыходу.
Гучалі, даганялі галасы
Няздзейсненага некалі палёту.

Была затрымка: высыпаўся снег
З нутра прыблуднай нейкай аблачыны.
Быў гул матора, стрыманы разбег...
З чым параўнаю
гэты край вышынны?

З чым параўнаю момант хараства,
Узвышэння, узнясення над сабою?
Малочная жывая сінява
Ўвабрала ўсё балючае, былое.

Адкрыла мне,
што ёсць інакшы свет —
Надвоблачны, надпобытавы, звонкі,—
Дзе не збіраюць радасцей і бед
У памяці дзіравую скарбонку.

Дзе чуецца шаўковы шолах крыл,
Дзе адступаюць страхі і трызненні,
Дзе да святла і лёгкасці парыў
Адужвае зямное прыцягненне.
1986

***

Прывялых флёксаў купкі, цеплыня,
І ліпаў старасвецкія чароды,
І горада чужога таўкатня,
І асалода ўласнай адзіноты.

Чаму мне, адарванай ад жытла,
Не роспачна?
І дзе мая нясмеласць?
Я тут сябе сапраўдную знайшла,
Пазнаючы сваю зямную спеласць.

Як часта мы разгублена стаім
Перад адкрыццем,
што нас напаткала!..
Той горад стаў — за дзень адзін! —
маім,
А я яму сябе падаравала.
1986

## СЯБРОЎЦЫ

За мукі, за страты — любоў.
Прымі падарунак, не грэбуй,
Тым болей не скардзіся небу
На лютасць ягоных грамоў.

Паспелі яны ацішэць,
Лагоднымі сталі, ручнымі.
Душы, што спалохана імі,
Дазволена цацку займець.

Захопіць, завабіць яна,
Пакуль не ўсвядоміш нанова,
Што ўсё, усё на свеце часова,
Што ўсё — толькі грэх і мана

Ты сёння свіцішся...
Кахай,
Пацешся, забудзь пра былое.
І хоць суцяшэнне малое,
Ты большага ўсё ж не жадай.
1986

***

Агаліліся гнёзды ў спляценні галін,
Таямніца
будзённа адкрылася воку.
Дзе ўбіраліся ў сілу
ці шчэбет, ці клёкат,
Беспрытульна бадзяецца вецер адзін.

Астываюць птушыных сямей буданы.
Што на ўсіх скразняках
да вясны застанецца?
І хіба хоць на кроплю малое цяпельца
Абагрэла абшар велізарны зямны?

Блаславяць, прыляцеўшы,
стамлёным крылом
Нас усіх
і на гнёзды апусцяцца ціха.
І, магчыма,
да смерці паб'юцца буслы
За адзіны,
жаданы і страчаны дом.
1986

## ЛІПА Ў СКВЕРЫ

Быў дзень яшчэ раскошны,
не малы,
Чакала ліпа чэпкае пчалы.

Тапырыла махровыя суквецці
Спакусліва —
а лётаў толькі вецер.

Пчале, вы разумееце, не ў садзе —
У ікарусным канцэрагенным чадзе.

Яна і там, дзе гоні і прысады,
Мясцінамі ўжо дыхае на ладан.

Вось і ўдыхаем водар саладжавы
Замест пчол,
а нас чакаюць справы.

Чаго чакалі мы — даўно забылі.
Гудуць, гудуць, гудуць
аўтамабілі...
1986

***

Ёсць мера спачыну
і рупнасці мера.
Да працы прыкутыя, як да галеры,
З такою вось думкаю
мы ў дзве лапаты
Капалі, да ладу даводзілі грады.

Знаёмая пліска да нас прыляцела,
Бліскучым, дапытлівым вочкам
глядзела,
Бо што ні кажы, а сялянскімі справамі
Ў святую нядзельку
былі мы цікавымі.

Якая нядзелька!
І ў будні, і ў святы
Наш дух на крыжы мізарнечы распяты.

Здалёку, зусюль,
з-за нябачнага краю
Злятаецца воранаў чорная зграя:
То зло і бяздум'е спяшаюць гурмою,
І трэба адбіцца любою цаною.

Далёка яны — і здзіўляюча блізка:
Крыклівая зграя і мілая пліска.
Паміж, на мяжы, ля здагадкі высокае
Маўкліва стаю
з непатрэбнай рудлёўкаю.
1986

***

Сустрэліся світанне са змяркannем
Асеннім днём.
Навошта ім спатканне?
Кароткі дзень.
Кароткае жыццё.
Нязбытнае ўколе, як асцё,
А што збылося — тое адышло,
Перагарэла,
стала прах і тло.

Ах, восень, восень...
Што ты робіш з намі?
Тваё цянёты не парваць рукамі.
У змроку расплываюцца абрысы
Рэальнасці.
Лісты ляцяць, як спісы
Зняверанных, спустошаных душой...
Ах, восень, восень...
Новы верад мой.
1986

***

Навальніца спеліцца ўначы,
Як замес, расце і набракае.
Вільгаць і пагрозу несучы,
Месца для адхлання выбірае.

Што за шал фарбуе небасхіл?
Што за гнеў
няўмольнай робіць хмару?
Хтось па-над дарогай круціць пыл,
Як ваўчок,
і блізка здань пажару.

Адгрыміць.
Бяда, як і раней,
Пройдзе бокам, нас не зачапіўшы.
Раніца лагодай ахіне,
І неверагоднай здасца ціша.
1986

***

Мы скрышым дробныя няшчасці,
Вялікія — пакрышаць нас.
*Р.М. Рыльке*

Паэт, не прадракай бяды,
У нябыт пасходзілі прарокі.
Пакуль не чуем новых крокі —
Маўчы, не прадракай бяды.

Дарога наша пратаптана
Да нас — усімі, хто ішоў,
Хто страціў болей, чым знайшоў.
Дарога ў заўтра пратаптана.

Бяду малую я змагу,
Сівую пасму адпілую.
Я толькі ноччу пагарую,
А днём — бяду перамагу.

Бяда вялікая — з нябёс
Аднойчы сыдзе, і аслепіць,
І нам з металу помнік злепіць.
Бяда вялікая — для ўсіх...
1987

***

У шэрым свет.
І пробліску няма,
І поры насычаюцца нудою,
Як глеба ўся — нябеснаю вадою.
У шэрым ды цякучым я сама.

Ні сілы, ні жаданняў у мяне.
Мой дух чадзіць і курчыцца,
нібыта
Ён гэтаю залеваю заліты.
Няўжо ніхто, ніхто не раздзьмухне?

Хутчэй бы промень
выбліснуў з вады.
Пабачыўшы, што чэзну я і гіну,
Патрушчыў бы аблокаў шкарлупіну
І вылупілася сонца —
назаўжды.
1987

***

Ці скора світацьме?
Ці скора зара
Пральецца на долы і нівы?
Здаецца — прыждала.
Здаецца — пара.
Аблокаў расчэсаны грывы.

І сонцу адно засталося —
ажыць,
Свой воз разагнаць спаконвечны
Ды лейцы над ім апантана круціць,
Пакуль не прыкоцімся ў вечар.

А ў возе — жыццё наша,
першасны груз,
І бруд наш, і слабасць, і сіла.
Напэўна, наб'ём не абы-які гуз,
Калі затармозіць свяціла.

Бясконцы, стамлёны, задыханы бег...
Паблытаны сродкі і мэты,
А коні панеслі,
і д'ябальскі смех
Гучыць над разбуджаным светам.
1987

***

Сышоў вячэрні морак з вышыні,
Прыхоўваючы ўсе непамыслоты.
Свіцяцца электрычныя агні,
І гмахі шматкватэрныя — як соты.

У гэтых сотах — жыцці, а не мёд.
Тут бруд і цнота,
шчасце і пакута.
Злучылі нараджэнне і зыход
Нябачныя — з трывалых самых —
путы.

Тут пчол і трутняў дзіўны сімбіёз,
Свае законы і свае парадкі.
І той, хто сёння ўзятак не прынёс,
Гарланіць песню
ды пужае матку.
1987

***

Вось-вось аэрадром...
Відаць агні.
Не, гэта вёска запаліла вокны
Ды выбліснула ў шэрані здалёку.
Вось-вось абшар асвецяць
прамяні.

Да перамен — адно падаць рукой.
Чакаюць, адцвітаючы, мімозы
Захопленых вачэй.
Яшчэ не позна
Паўднёваю нацешыцца вясной.

Каб да радзімых гнёздаў даляцець,
І нашы птушкі з лужын паспыталі.
Там-сям чарнеюць лапіны праталін
І нават распагоджваецца зрэдзь...

А пасажыры ў лёгкіх паліто,
А сцюардэсы локаны ўзбіваюць
Ды што каму купіць — успамінаюць...
І пра зіму не думае ніхто.
1987

***

Мой прыпынак — плошча Перамогі.
Тут наш рэдакцыйны кабінет,
Дзе прыкметна выбілі паркет
Аўтараў узрушаныя ногі.

У літаратурным эпіцэнтры
Горача і душна — не дыхнуць.
Касяком з паперамі ідуць
Моладзь і сівеючыя мэтры.

Колькі іх прайшло перада мною —
Чыстых душ,
няўдачнікаў, дзялкоў,
Ну, і тых, хто адчыняць гатоў
Нават браму райскую
нагою!

Гэтыя штурхаюцца,
наскокам
Лезучы ў першыя рады
Са сваёй сцюдзёнай пустаты.
І пралазяць,
і глядзяць звысоку!

Не адчулі: зорка іх згасае,
Час іх растае, нібы лядзяш.
Будучы, наступны аўтар наш
Недзе мяч расхрыстаны ганяе...
1987

***

Аўтамабільны вясельны картэж:
Лялькі, шары каляровыя, стужкі,
Гожа прыбраныя шаферкі-дружкі,
Марш урачысты
і радасць без меж.

Шчасцем свіціцца нявеста.
Яна
Быццам і кроплі сумнення не мела
Ў тым, што акажацца некалі ў белым,
З чаркай — салодкай і горкай — віна.

Мчыцца картэж, азіраецца люд.
А па дарозе (прыкмета благая?)
Вецер шары па адным адрывае:
Марна качаюцца там і тут...

Знойдзе дзіця — нагуляецца ўволю.
Мчыцца картэж.
Ці дагоніць ён долю?
1987

**РАКАЎ**

Маўкліва стаіць пастамент,
Схаваны сучасным плакатам.
Пасёлак, відаць, не багаты
На тэхніку быў, каб умэнт
Прыбраць яго.

Потым — забылі
(Уперад глядзім, не назад).
Паблізу — касцёл-зернесклад,
Спічасты і шэры ад пылу.

Тут людна і зараз.
Народ
Вакол дзелавіта раіцца.
Як дуплы ў ствале, аканіцы,
Вурчыць самазвал пасярод.
І прыкра ў касцёле тым,
Нібыта душу згвалтавалі.
Мы доўга і моўчкі стаялі —
Як два пастаменты зусім.
1987

***

Ішла і плакала жанчына.
Ці маці страціла, ці сына —
Не ведаю.
Хапае ў свеце бед!
Чым перад ёю правініўся свет
На тэты раз?
Як мы ўсе,
Яна пракляцце вечнае нясе —
Ад Евы
да сучасных нашых еў,
Што дзічкі рвуць
з усіх бліжэйшых дрэў.

Ішла і плакала...
Нiмала
Свайго адчаю не хавала.
Не заўважаючы людзей,
Дасюль яна ідзе-брыдзе
Перад маім душэўным зрокам,
І выглядаюць цёткі з вокан.
1987

***

Ён не помніць ні зла, ні дабра,
ні сваіх абяцанняў.
Ён умее схлусіць —
і пагляд не туманіць віна.
Быў бы дужым ласём —
апантана трубіў на світанні.
Быў бы ясенем —
лісцем шумеў ля вакна.

Бессмяротнай душы
яму дадзена зерне навошта?
Мо на камень упала?
Усходаў чаму не дае?
Хто не ведае гэтага дару
сапраўднага кошту,
Той дарэмна жыве,
той, бывае, душу прадае.

Я загадкі адгадваю, б'юся,
а ў тую хвіліну
Ўдыхае Ўсявышні жыццё
ў чарговую гліну.
1987

***

Вы бачылі шчаслівага мужчыну,
Які з букетам кветак
Нахіліўся
Да мілага стварэння ў фаце
І проста ў вачах сваіх расце?

А вось са скруткам белым
Ля раддома.
Трымае, як найбольшае багацце,
Ён першынца —
З удзячнасцю да маці.

А як ён захапляецца, калі
Айчынная футбольная каманда
Забіла гол і выйграе вось-вось...
Ён трубіць пераможна,
Быццам лось.

Аднак, я не бяруся апісаць
Ягоны твар
(О, дзе вы, жывапісцы?!),
Калі прывезлі піва ў гастраном
І ён імчыць —
З пакетам і з рублём...
1987

***

Мы шукалі пералёт
Ад спужання і згрызот,
Ад хваробы гарадской,
Стрэс — назова ў якой.

Як напарым і пап'ём,
Будзем спаць спакойным сном.
А як шэф пачне крычаць —
Толькі слухаць ды ківаць.

У вялізазнай чарзе
Дастаімся, як і ўсе.
У аўтобусе ў час «пік»
Не пакінем чаравік.

Калі ж дочка ці сынок
Слова скажуць папярок,
То не будзем кожны дзень
Мы хапацца за рамень.

Пералёцік, пералёт,
Дзе ж ты знік?
Пайшоў на звод?
Ярам ходзім мы дарма.
Паратунку ў нас няма...
1987

***

Пазычыла вясна
ў лета тыдзень,
І восень прыхапіла колькі дзён.
Што лету застаецца?
Век, як сон,
Мінуўся,
а другі не скора прыйдзе.

Перачакаць? У крыўдзе затаіцца?
Рабінаваю гронкай палымнець
Усю зіму, гайдаючыся ледзь,
Ці неадольна пульсаваць крыніцай?

Мо пакарыцца роспачы і ўтоме?
Альбо характар раптам паказаць
І бабіным, неверагодным стаць,
Каб цвіў дубок
на фоне безлістоўя?

Яму цвісці і звацца хрызантэмай,
І сонцу ззяць няпэўны тэрмін той,
Што адабраны колісь быў слатой —
І завяршыцца сонечная тэма,
1987

***

І сарваная кветка
вады яшчэ хоча папіць,
І дзіравыя ветразі
дыхаюць ветрам і воляй,
І патухшая зорка
ў зрэнках працягвае жыць —
У кананне не верыць ніхто
і не верыць ніколі.

Покуль неба і глеба,
і гранне пясчынак на дне,
Покуль свой карагод
прадаўжаюць Валы і Сабакі,
Да апошняга ўздыху
маліцца на існае мне
Ды шукаць навакол
невыказнага тайныя знакі.
1987

## ПІВОНЯ

Півоня паволі пялёсткі губляла,
Пакорна сваёй пазбаўлялася плоці.
Сваё адцвітанне яна сустракала,
Што каву — ужо ацяжэлыя госці.

Усё мае канец.
То не намі, не намі
Прыдумана, сцверджана.
Мы — спадкаемцы
Тых ісцін,
што люд здабываў пісягамі
Крывавымі, страшнымі —
проста на сэрцах.

Канец і пачатак у тым вымярэнні,
Дзе мы не былі і куды палахліва
Заглядваюць нашы падчас летуценні,
Зблудзіўшы,
сышоўшы са сцежак шчаслівых.

Мой столік засыпаны тым,
што калісьці
Бутонам было і раскошнаю кветкай.
І падаюць, сыплюцца кволыя жыцці
Са жмені Жыцця
і разносяцца ветрам.
1987

## ПАДАБЕНСТВА

Як многа людзей
на цябе падобна.
Дрэнна гэта ці добра?

Плеч разварот як пабачу круты,
Сэрца ў бездань зрываецца:
«Ты!»

Твару танклявы абрыс мільгане
Расчаравана сцінаюся: не…

Хоць і падобны, але не такі.
Горадам ходзяць твае двайнікі.

Каб я згубіла і сон, і спакой,
Іх насылаеш ты ўладай сваёй.
1987

## НЕВЫМОЎНАЕ

Трыпціх

**I**

Я слова шукала,
прамовіць хацела
Яго, невымоўнае,— і не змагла.
Прастора пранізана токамі целаў,
І прагай сумоўя, і прагай цяпла.

Вось гэтак паўночнае неба бывае
Маланкамі густа расшыта,
а там —
Далёка — абранае дрэва палае,
На радасць ужо не дарэмным грамам.

Абранае... Хмарай абранае? Небам?
Асветлена цемра —
і ў гэтым адказ.
Яго шкадаваць я не бачу патрэбы.
Яно пашкадуе, высокае, нас.

**II**

Прырода нас падманвае ўсіх,
Бо мае свой — прыхованы — інтэрас.
Пра туманы пішу я і пра верас,
А ты адзін
у грэшных снах маіх.

Мой дух пра штосьць здагадваецца,
хоць
Сказаць сабе усё-ткі пазбягае,
Што, можа, ён зусім не выбірае,—
Што выбірае і кіруе плоць.

А зоркі, туманы і верасы
Адно празрысты флёр,
адно іскрынка
Над вогнішчам,

што палыхала зырка
Яшчэ ў дагістарычныя часы.

Святы агонь дужэе і расце.
І лепшым падаецца мне каханы
За ўсіх на свеце,
і няма падману
За гэты чалавечней і чысцей.

**III**

Здабытае, ты траціш у цане.
Дасягнутае, ты і напалову
Не спраўджваеш таго,
што ў марах мне
Наабяцана.
Моўленае слова —
Дакладнай думкі прывід прымусовы,
А гром — ён толькі прывід бліскавіц,
Што асляпляюць, падаючы ніц.

За шчасцем удагонку не спяшай.
Яго аблічча, што табе заззяла,—
На прасціне намаляваны рай
(Такі, як Кіш Алена малявала).

Нам сушаць вусны прага і пакута,
І наталенне вабіць, як атрута.
Адзін глыток — і смага прападзе.
Дык, можа, мэта наша — не ў вадзе?..
1987

## ДВА ПАГЛЯДЫ

Праз натоўп,
праз галовы і плечы
Два пагляды шукаюць сустрэчы.

Як малыя, што лесам блукаюць
І то плачуць, то марна гукаюць.

Як іскрынкі, што ў цемрыве ночы
Стаць узвеяным полымем хочуць.

Як у бездань шпурнутыя ноты,
Што паўсталі
супроць адзіноты.
1987

***

Няма мяне —
і не шукай вачамі,
Не ўспамінай ні днямі, ні начамі.
Змірыся, прыцярпіся.
У кулак
Зацісні сэрца —
моцненька, вось так.
Калі ж усё-ткі застанецца знак —
Пры чым тут я?
Мяне няма, няма.
І шкадаваць, і дакараць дарма.
1988

***

Што трэба траве,
каб яна ажыла,
Зялёнай зрабілася,
цешыла вока?
Патрэбна адліга
і трошкі цяпла,
І промень, што доўга блукаў
між аблокаў.

Што трэба рацэ,
каб яна пацякла
Раздольна,
без лёдавай цяжкай апекі?
Патрэба адліга
і трошкі цяпла.
Чакаюць, чакаюць
знямелыя рэкі.

Што трэба душы,
каб у ёй не было
Зацятасці згубнае,
вартае жалю?
Цяпло чалавечае.
Толькі цяпло,—
Трава, і рака, і душа
адказалі.
1988

## ПРА АПТЫМІЗМ

Перачытала даўнія вершы —
Самыя шчырыя, самыя першыя —
І вывад зрабіла:
я мо з калыскі
Неверагодная аптымістка.

Свет да мяне,
покуль мела наіў,
Сонечным бокам навернуты быў,
І ўсё што магло мне
азмрочыць чало,
У ценю надзейна схавана было.

Не выключэнне я з правіл, аднак жа.
Дружна газеты
і дыктары нашы
Нас пераконвалі:
сонца ў зеніце!
Толькі зірніце
ды не змаргніце!

Нашы дырэктары, нашы міністры —
Спрэс паслухмяныя аптымісты,
І за каштоўную якасць натуры
Ім выдаюць немалыя купюры.

Вось і не бачаць уласнай зямлі,
Дзе соль Салігорска з'ядае палі,

Дзе беспрытульна і гулка —
гады —
Сноўдае рэха народнай бяды.

Ды не падумайце,
зрок у парадку:
Бачаць паперыну, візу, пячатку...
Тая папера — як індульгенцыя
(Хай камплексуе інтэлігенцыя).

Пустка палеская, рэкі-канавы —
То аптымістаў сумныя справы.
Гэта дакор — невымоўны, вялізны
Нам —
і казённаму аптымізму.
1988

***

Калі народ ідзе на звод,
Губляе ўпэўненасць народ.

Ён, як сляпы на раздарожжы,
Гатоў кідацца ў бакі
І па жыцці ўжо не можа
Ісці без нечае рукі.

Калі народ ідзе на звод,
Зацятым робіцца народ.

Ён пазбягае горкай праўды
І, у чаканні лепшых дзён,
Не церпіць жалю і спагады,
Бо сам сябе шкадуе ён.

Ён звыкла слухае прамовы,
На працу раненька ўстае,
А ім не сказанае слова
Баліць
і грудзі рве мае.
1988

***

Кіпіць у небе птушак чарада:
Ідзе зіма, зіма не за гарамі!
Пад белымі ўладнымі рукамі
Застыне неўгамонная вада.

Чакаем маразоў, як дзеўкі свах.
Паэт сказаў:
«Люблю пахаладанне».
І ўсё ж, калі яно настане,
Да батарэяў ціснемся ў дамах.

Гусцее кроў і засынае дух,
Адчуўшы гіпнатычны позірк нечы.
Матулі нашы дзесьці паляць печы,
І неўпрыкмет
жыцця вузее круг.
1988

**ДАЧЫ**

Тут кучнасць — і поля амаль што
былінны размах.
Харомы — ў адных.
У другіх жа — хаціны і будкі.
Казыча насы нам
шашлычны спакуслівы пах.
Мільгаюць над дахамі
ластавак белыя грудкі.

На сажалку мелкую
водзяць купацца сабак.
Даносяцца рогат хлапечы
і гоман дзявочы.
У нас на градзе
акуратненька зрэзалі мак.
Сцяблы без галовак
шчэ доўга калолі ўсім вочы.
1988

## ВЫСТАЎКА

Ідовішча: мастак каля карцін.
І не адзін, вядома, не адзін...

Знаёмыя, калегі і радня
Ўсведамляюць урачыстасць дня.

У прадчуванні шчодрага стала
Шчадрэюць камплімент і пахвала.

А на карцінах, дробных і вялізных,
Усё, што мы назвалі рэалізмам.

Тут будзень гераічны наш і шэры
Смакуецца без усялякай меры.

Абветраныя твары, краявіды
Напісаны старанна, самавіта.

Сябровак распаўнелыя ўжо станы
Халоднаю рукой адлюстраваны.

Ды раптам між карцін мільгне такая
Някідкая, жывая, трапяткая,—

Што ты даруеш гэтыя паўзалы,
Дзе праўда, мусіць, і не начавала.
1988

## МІЦКЕВІЧАЎ ДУБ

Людзьмі загублены і часам,
Закуты ў мёртвае жалеззе,
Стаіць — мінуласці акраса —
У неверагодным нейкім лесе.

Той лес быў паркам адмысловым,
Меў догляд,

і не раз, бывала,
Паненак пекная размова
Ў ім, як музыка, гучала.

Аглухлі дрэвы і здзічэлі.
Дзе гаспадар
і дзе садоўнік?
Чыё дыханне ліст шавеліць,
Калі за хмарку зойдзе поўня?

І чый там плашч мільгае цьмяна —
Старога крою?
Дуб няшчасны
Маўчыць, маўчыць...
Бо свету тайна
Адно паэту падуласна.
1988

***

Калі самалёты
раскроілі хмару, як лусту,—
Атрутную лусту
(дагэтуль мы крошкі ядзім),
Пужаліся людзі старыя
ад гулу і грому
Ды згадвалі болей вайну,
чымся майскі парад.

Над вёскай, над полем
насілася воля дзяржавы
Птушынай гурмою,
і хмара сплывала дажджом.
А той, хто прыслаў гэты гром,
гэты вырай злавесны,
У судны свой дзень будзе мовіць:
«Выконваў загад».
1989

## МЫ ЖЫЛІ!

Калі закапае з балкона,
Калі зямлі адтане лона
І пойдзе цёплы ўвесь абутак
На антрэсолі і ў закутак;

Калі не-аўгіевы стайні
Ачысцім мы і перастанем
З хлуслівых слоў
плясці цянёты,
Калі палюбіць нас работа;

Калі ўпітаем дух вясновы
Ды справім белыя абновы —
Тады на змененай зямлі
І зразумеем:
мы жылі!
1988

***

Што ёсць страта
і што ёсць драма?
Нам няпроста адказы шукаць.
Дзе калісь узвышаліся храмы,
Там сілосныя вежы відаць.
1989

***

Мінуўся палон зімовы.
Снягі адплываюць прэч,
І шэпча вада замову
Ад будучых халадэч.

У кругазвароце лёсу
Вось так у належны час
Аднойчы знікаюць слёзы
Ды лашчаць удачы нас.

І ад чаргавання сцюжы
Са спёкаю
мо калі
Здабудзецца намі мужнасць,
Патрэбная на зямлі.
1986

## ЗМЕСТ

### НА МОВЕ ШЧАСЦЯ РАЗМАЎЛЯЛА

«О, каб змагла спіхнуць з плячэй...»
«У царства пчол — у сад прыйшла...»
Крылы
Журавы
«Ты вясну не страчай у горадзе...»
«Прыйшоў (на шчасце ці на ліха?)...»
«Мы не шануем даўнішнюю веру...»
Бульба цвіце
Прысвячэнне
«А дрэнны настрой...»
Прадчуванне
Партрэт
«Я думала: шчасце — знаходка...»
Узнагарода
«У салаўя работа...»
Слова
Прывітанне
Вячэрняя фантазія
«Я не адна...»

### УСЕ МЫ НОВЫЯ ШТОДЗЕНЬ

«Яшчэ прадбачана нямнога...»
«Вяла задума да ракі...»
«Не кажыце...»
Мой сад
Скрыпка
Дачка вучыцца гаварыць
«Мне ўяўляецца ростань...»
«У лесе галюткім...»
Ранішні верш
Галубка
«Бескампраміснасці прыкметы...»
«Бабулінай печы хвала...»
«Жнівень жніўню не раўня...»
«Адышлі драбяза і тлум...»
«Я пачуцці хаваць не прывучана...»
«Дарма пражытая хвіліна...»

«Год на год нанізан шчыльна...»
«Над каханнем маім адзіным...»
«Цыганскай долі не спытала...»
«Дагарае вуголле ў печцы і ў зрэнках...»
Пакаранне
Памяці дзядулі
У Батанічным садзе
Свята
«Напэўна, прага перамен...»

## ЖЫЦЦЯ ЯШЧЭ НЯДОЎГАГА ПАДЗЕІ

«Невыпадкова, невыпадкова...»
«Якія розумы гібелі!..»
Прымаўка
Клятва
«Я прылегла на дол лясны...»
«Праз глухі камарыны звон...»
«Жыцця непрадугледжаныя змены...»
«Завеі-гады...»
«Ёсць вёсачкі...»
«У хвіліну тугі, як вядзецца...»
Успамін аб Гародні
«Дазвольце слабай стаць жанчынай...»
Хацела вымераць любоў
«Што каханы сто разоў...»
Без цябе
«Жыццё, мяне не беражы...»
«Удвух ваявалі...»
«Калі чалавек глядзіць на дзіця...»
«На зямлі незвычайна ціха...»
Здзіўленне
Чорная хусцінка
«Па моцнаму марозу, адвячоркам...»
Аер
«Мне лепей не хадзіць...»
Прага дасканаласці
«Гісторыя— не могільнік глухі...»
Маскоўскае метро
Малюнкі на пляжы
«Душа павінна вызваляцца...»

«Жыцця яшчэ нядоўгага падзеі...»
«Дзе подбегам...»
Галалёд
«Не закаханай ні ў каго...»
Набываю ці трачу?
«Расспяваліся пеўні...»
«У мастака...»
«Нарэшце дзеці ёлку прыручылі...»
«Я гэтак гляджу...»
«Удалечыні парнаская гара...»

**АБЦЯЖАРАНА СЭРЦА ПЯШЧОТАЙ**

«З дасужаю цікаўнасцю турысткі...»
«Асенні дух...»
Дымы над гарадком
Вясновыя адбіткі
Паненская гара
«У магазіне, дзе таўпяцца...»
Жыла-была
«Растуць, мне гаварылі...»
Просьба
«Запалкай карабельнае сасны...»
Пра колеры
«З якой жадобай я піла паветра...»
Чакаючы цябе
«Прачынаецца лес давідна...»
Я гляджу на сябе
Начныя матылі
«Лясы — нібы людскія душы...»
«Я назірала, як расце трава...»
«Ён у вочы глядзеў мурашам...»
Ажыны
Багіня Флора
«Прысніўся мне сад у саспелых пладах...»
«Над бяздоннай прорвай небыцця...»
«Ад заспанага сонца...»
Парада малюсенькім ножкам
«Чытаючы пра вогненныя вёскі...»
«Сон парваўся, як нітка...»
«Не навучуся прызвычайвацца...»

Млечным Шляхам
Уладзіміру Караткевічу
Страшная казка
Мастачкаю была б
Птушкі Пірасмані
«На возе з бітонамі...»
«Замёрлі спужаныя хвілі...»
«У чалавеку...»
«Прадажнасць, як іржа...»
«Абрала маё сэрца не таго...»
На дне былога возера
Сосны
Птушка з блакітным крылом
Развітанне з Тувой
Старыя здымкі
«Безвыходнасцю свет замглёны...»
«Суніцамі пахнуць твае пацалункі...»
«Бэз адцвіце — адпяе салавей...»
«Было на кветцы па пчале...»
«Я разбіраю сказ па членах сказа...»
Марш «Развітанне славянкі»
«Абцяжарана гронка рабіны...»
«Ты вёў мяне па лесе да азерца...»
«Былі пярэбары і ў нас...»
«То цягніка аддаленыя зыкі...»
«Па дарозе лясной...»
У дождж
Іголкай промня

**ДЫК ШТО ТАКОЕ, УРЭШЦЕ, ЧАС?..**

«Пад ранак шуганула навальніца...»
«...І зноўку выпаў снег...»
«Ну, вось і ты, асенняя пара...»
«Стаў цяжэй і паважней крок...»
Не ідзе міленькі мой
«Як спатыкнуцца аб пагляд...»
Рака любові
«Глядзела ў акно і пасёлкі лічыла...»
«Мы спрачаліся, мы сварыліся...»
Незавершанасць

«Раблюся гараджанкаю патрошкі…»
«Алена і Настасся, дзве дачкі…»
«Спасцігаю жыццё мураша…»
Год лісічак
«Узрост выцясняецца ўзростам…»
«Як цяжка ўсходзіш ты, насенне…»
«Калі маладзее зямля…»
«Мы выязджалі з Ягаднага ранкам…»
Першая сустрэча з Грузіяй
«Бурылі цэрквы…»
«На сугрэве шчаку пячэ…»
Вяртанне
І шчасце было!
«Цвыркуна аглушальная ода…»
«Дзіця пераступае ганак…»
«Пралілася скупая сляза…»
«Цяплей не будзе…»
«Цягну я срэбраную нітку…»
«Ані плямкі на сінім шоўку…»
«Пад нізкаю навіссю хмар…»
«Шкада мне цябе, любоў…»
«Прайшло не многа і не мала…»
Рука жыцця
«І першы ручаёк, і першы снегапад…»
«Якая квецень!..»
«У незапыленай лістоты…»
Ода ўдзячнасці
«У рэўнасці з нянавісцю адны…»
Сухавей
«Сустрэнемся, мой дружа, выпадкова…»
«Маладзенькі зубок касача…»
«Той журавель, што сніўся, прыляцеў…»
«У зялёным небе жніўня…»
На сцэне дня
Ісціна
Тры балконы
«Скарачаем дарогі мы…»
«Ёсць вышэйшая несправядлівасць…»
«У застарэлага болю перавага адна…»
«Зіма ўступіла ў дачны гарадок…»

«Усё на лепшае, што ні робіцца...»
«Мы цешымся падчас самападманам...»
«Пастукаю ў суседнюю душу...»
«Жыццё маё, ты кропля ў моры жыццяў...»
Дапамагайце маладым!
Спяць карані
Сустрэча
«Ты адкуль, заімшэлы валун?..»
«Берэт блакітны адцяняе твар...»
Ненапісаны верш
«Штодня мяне ў сваім віры...»

**У ШЫБУ ГЛЯДЗЕЎ МАЛАДЗІК**

Балада пра помнік
Елачка
Здарэнне на прыпынку
Быль пра бабку Паўліну
Быль без назвы
«Развялося замнога чарвы...»
Маналог паўднёвага дрэва
Быль пра голага
Маналог кактуса на падаконніку
Жаўна
Дзічка
Быль пра возера
Быль пра ўчарашні дзень
Знікненне блазна
Мяцеліца
«Ластаўкі зляцеліся на сход...»
Абрэзаныя тапалі
«Завісае над полем каршун...»
Шпак
Цячэ рака
Маналог падлёднай рыбіны
«Счарвівеў грыб, не вырасшы...»

**І ЗРАЗУМЕЕМ: МЫ ЖЫЛІ!**

«Сто абліччаў хмурынкі...»
«Наталі маю прагу дабра...»
«Была страла ўзлётнай паласы...»

«Прывялых флёксаў купкі, цеплыня...»
Сяброўцы
«Агаліліся гнёзды ў спляценні галін...»
Ліпа ў скверы
«Ёсць мера спачыну і рупнасці мера...»
«Сустрэліся світанне са змяркannем...»
«Навальніца спеліцца ўначы...»
«Паэт, не прадракай бяды...»
«У шэрым свет...»
«Ці скора світацьме?..»
«Сышоў вячэрні морак з вышыні...»
«Вось-вось аэрадром...»
«Мой прыпынак — плошча Перамогі...»
«Аўтамабільны вясельны картэж...»
Ракаў
«Ішла і плакала жанчына...»
«Ён не помніць ні зла, ні дабра...»
«Вы бачылі шчаслівага мужчыну...»
«Мы шукалі пералёт...»
«Пазычыла вясна...»
«І сарваная кветка...»
Півоня
Падабенства
Невымоўнае. Трыпціх
Два пагляды
«Няма мяне...»
«Што трэба траве...»
Пра аптымізм
«Калі народ ідзе на звод...»
«Кіпіць у небе птушак чарада...»
Дачы
Выстаўка
Міцкевічаў дуб
«Калі самалёты...»
Мы жылі!
«Што ёсць страта...»
Мінуўся палон зімовы

**Каржанеўская Г.**

**К 22**

Невымоўнае: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1991. 287 с., іл. [1] л. партр.

**ISBN 5-340-00891-6.**

Корженевская Г. Невыразимое: Стихи.

У гэтую кнігу паэтэса ашчадна адабрала лепшыя вершы са сваіх кніг і шматлікіх часопісных і газетных публікацый. Яе крыху сцішаная лірыка адразу кранае душу чытача абвостраным пачуццём справядлівасці, душэўнай чысцінёй, якая раскрывалася ва ўсеперадможным пачуцці кахання, дружбы, чалавечай еднасці. Апошнім часам Г. Каржанеўская спрабуе асэнсаваць як праблемы сённяшняга жыцця, так і вечныя пытанні — аб сэнсе існавання, аб хуткаплыннасці часу.

**ББК 84 Бел7**
**К22**

**4702120202-009**
**К ---------------------------- 139-91**
**М 302(03)-91**

Литературно-художественное издание
КОРЖЕНЕВСКАЯ Галина Анатольевна
НЕВЫРАЗИМОЕ
Стихи

Минск
Издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Літаратурна-мастацкае выданне
КАРЖАНЕЎСКАЯ Галіна Анатольеўна
НЕВЫМОЎНАЕ
Вершы

*Рэдактар В.М. Хлебавец.*
*Мастак В.А. Губарай.*
*Мастацкі рэдактар А.І. Царой.*
*Тэхнічны рэдактар М.Д. Папкова.*
*Карэктар Л.А. Дзядзюля.*

ІБ № 3667
Здадзена ў набор 05.05.90. Падп. да друку 30.10.90.
Фармат 70x90 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная.
Высокі друк. Ум. друк. арк. 10,53+10,08 укл. Ум. фарб.-адб. 21,42.
Ул.-выд. арк. 7,97. Тыраж 1300 экз. Зак. 390. Дана 1 р.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура»
Дзяржаўнага камітэта БССР па друку.
220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга
паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа.
220005, Мінск, вуліца Чырвоная, 23.